ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 347
Год выд. XXXVII

Травень
1988

## ПАЛЯНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ КАТАЛІКОЎ

### Зварот беларускага сьвятара да ўдзельнікаў канфэрэнцыі ў Лодзі

**Ад Рэдакцыі:** *Ніжэй зьмяшчаем у беларускім перакладзе з польскае мовы ліст-зварот беларускага каталіцкага сьвятара а. Ўладыслава Чарняўскага да ўдзельнікаў канфэрэнцыі, праведзенай зь ініцыятывы аа. Езуітаў у гор. Лодзі ў Польшчы 23-25 кастрычніка 1987 г. на тэму «Беларусы, Літоўцы, Украінцы, Палякі — перадумовы пагадненьня». Айцец Чарняўскі, які ад 1953 г. знаходзіцца на парафіі ў вёсцы Вішнева каля Валожына, быў запрошаны на канфэрэнцыю, але ўзяць ўдзел асабіста ня здолеў, тым ня менш паслаў туды сваё пісьмовае выступленьне, свой як-бы даклад. Дакумэнт гэты быў зьмешчаны ў самвыдавецкім зборніку «Архіўны сшытак», выдадзеным летась у Беластоку. З «Архіўнага сшытка» выступленьне а. Чарняўскага было выдрукаванае сёлета асобным выданьнем у арыгінале і ў ангельскім перакладзе Беларускім рэлігійным выдавецтвам «Божым Шляхам» у Лёндане пад заг. «Ліст сьвятара аб паложаньні Каталіцкай Царквы ў Беларусі».*

Шаноўныя дэлегаты!

Ня маючы магчымасьці браць удзел у сходзе, я хоць пісьмова, як ксёндз-Беларус, прадстаўляю Шаноўнаму Сходу сумны стан Беларусаў-каталікоў на Беларусі — магчыма й завойстра, але справа важная і трагічная, зразумейце нарэшце. Пішу сьпяшаючыся.

Ня буду заглыбляцца ўва ўсю хрысьціянскую мінуўшчыну Беларусі. Прынялі мы хрысьціянства з Усходу, зь Бізантыі. Мова літургіі — стараславянская, у пісьме й навучаньні — нацыянальная беларуская.

Берасьцейская вунія заміж аб'яднаць каталікоў і праваслаўных на Беларусі і ў іншых месцах разьбіла беларускі народ. Хто вінаваты? Найперш і найбольш той, хто не дапусьціў вуніяцкіх біскупаў у Сэнат і глядзеў на вунію, як на мужыцкую веру, як на мост да акаталічваньня й апаляччаньня Беларусаў. У 1839 г. Беларусаў зноў навярнулі ў «рускую веру». Як-жа трагічна ўсё гэта адбываецца! Як «руская» гэтак і «польская вера» была паніжэньнем для беларускага народу.

Першая сусьветная вайна разбурыла царскую імпэрыю, вызвалілася шмат народаў. Як Лазар паўставаў беларускі народ, але яго падзялілі, не далі магчымасьці ўваскрэснуць. Хто? Браты-суседзі, Славяне. Бываюць суседзі добрыя й благія. Такіх мелі Палякі, такіх маем і мы, Беларусы. А простая прыказка кажа: «Не рабі таго другому, што табе ня мілае!», пагатоў народ, зь якім мы жылі гістарычна, «браты ў Хрысьце». Там, на «рускай веры» вырасла бязбожніцтва, атэізм, а тут «польскай верай» заткнулі рот «братом у Хрысьце» — Беларусам.

У часе Першай сусьветнай вайны й адразу па вайне Архібіскуп Роп, пасьля біскупы З. Лазінскі й Ю. Матулевічус увялі ў касьцёлы набажэнствы пабеларуску, найбольш і перш-наперш казані, пасьля забароненыя; былі выпадкі арыштоўваньня за гэта ксяндзоў (кс. Гадлеўскі). Ксяндзоў-Беларусаў забіралі з парафіяў і пераводзілі на парафіі на польскія тэрыторыі або змушалі выяжджаць за мяжу. Ксёндз-Беларус ня мог быць пробашчам над Беларусамі. Гэтак, у 1937 г. на загад ваяводы Бацянскага выкінулі марыянаў-Беларусаў з Другі, хоць казані яны гаварылі папольску і гімназію вялі папольску. У гэтым часе выкінулі дванаццацёх Беларусаў-марыянаў клерыкаў зь Вільні. А было-ж гэтулькі сумленных біскупаў у Польшчы ды ксяндзоў і на Ўсходніх Крэсах. Усе згаджаліся й маўчалі. А затое колькі іх загінула ад гітлераўскай веры ў Польшчы!

У Польшчу ў часе рэпатрыяцыі выехала бадай каля чатырохсот ксяндзоў, папакідалі парафіі. А навошта ім пасьвіць «беларускае хамства!» Чаму гэтак выказваюся? Па сканчэньні навукі ў Рыме вярнуліся на пастырскую працу на «Ўсходнія Крэсы» мой дзядзька кс. Фр. Чарняўскі і кс. др. К. Кулак. Ксяндзу К. Кулаку была даручаная парафія на Горадзеншчыне. Пасьля вайны трывалі спусташэньне, голад, тыф. Гэтак было і ў парафіі кс. К. Кулака. Уся вёска жыла ў зямлянках і ў тыфе. Дык паехаў ён да графа Веляпольскага — ня ведаю, якую той займаў пасаду: старасты ці вышэй — і прасіць дапамогі, дрэва на будаваньне хатаў. А той яму адказвае: «Навошта ксёндз умешваецца ў гэтыя справы? Няхай гэтыя беларускія сьвіньні выдыхаюць хутчэй, прышлём Палякоў з Польшчы». Кс. К. Кулак падобна яму й адказаў, а дапамогу сялянам дастаў праз Варшаву.

У сьвятле гэтага адказу зразумееў я, чаму Палякі пры такім аўтарытэце пробашча, войта, начальніка паліцыі дазвалялі на страшныя бойкі й забойствы па вёсках. Аднаго заб'юць, другога пасадзяць у турму і менш будзе «беларускіх сьвіней» на Ўсходніх Крэсах. Іхныя месцы зоймуць польскія асаднікі! Чаму я гэта спэцыяльна падкрэсьліў? Бо гэткае стаўленьне трывае далей сярод ксяндзоў да сваіх парафіянаў, «касьцельных Палякоў». Чаму «касьцельных Палякоў»? Бо ўсюды па вёсках людзі гавораць пабеларуску з дамешкай польскіх і расейскіх словаў. Ад 1939 году на Беларусі няма ніводнай польскай школы. Карэнныя Палякі з дадаткам Беларусаў павыяжджалі ў Польшчу. Асталіся толькі «касьцельныя Палякі» з малым працэнтам запраўдных Палякоў.

(Працяг на 7-й б.)

## ЛІСТЫ ПАПЫ ЯНА ПАЎЛА II

### Аб арыгінальнасьці ўсходнеславянскіх культураў

З нагоды 1000-годзьдзя хрышчэньня Кіеўскай Русі Папа Ян Павал II выдаў два апостальскія лісты: агульны (Euntes in Mundum, 25.I.1988, 40 бб.) і да ўкраінскіх каталікоў (вуніятаў) (Magnum Baptismi Donum, 14.II.1988, 17 бб.). У абодвых лістох згадваецца й беларускі народ.

У першым лісьце прыгадваюцца словы з папскае энцыклікі Яна Паўла II пра сьвятых Кірылу й Мяфода з 1985 году, у якой сказана, што гэтыя два славянскія апосталы «мелі адвагу, для дабра славянскіх народаў, пакарыстацца (у іхнай місіянерскай дзейнасьці) іншай мовай і іншай культурай для пашырэньня веры». Трэйці разьдзел гэтага ліста прысьвечаны тэме веры й культуры. Хрысьціянская традыцыя, сказана ў ім, прывяла да стварэньня сярод усходніх Славянаў «поўнасьцяй арыгінальнай формы эўрапейскай культуры». «І нават сёньня ўнівэрсальны характар праблемаў чалавечае адзінкі й цэлых грамадзтваў, адлюстраваных у літаратуры й мастацтве гэтых нацыяў, выклікае бязупыннае захапленьне ў сьвеце», сказана ў лісьце

У другім апостальскім лісьце Папа Ян Павал II піша, што «братняя любасьць вымагае, каб кожнаму верніку было прызнана права быць шанаваным у ягонай або ейнай традыцыі й абрадзе, а таксама шанаваным з гледзішча на сутнасьць таго народу, да якога ён ці яна належыць».

## БЕЛАРУСКАЕ ПЫТАНЬНЕ НА КАНФЭРЭНЦЫІ Ў ЛОДЗІ

Выдаваная ў Кракаве каталіцкая газэта «Тыгоднік Повшэхны» (3.I.88) зьмясьціла карэспандэнцыю аб сымпозіюме у Лодзі (23-25.X.87) пра нацыянальныя мяншыні ПНР. На сымпозіюме, паводля газэты, «на першым месцы апынуліся справы ўкраінскія, на другім беларускія, а на трэйцім літоўскія».

На беларускія тэмы гаварылі дакладчыкі: гісторык Юры Туронак (пра падзеі часоў Другое сусьветнае вайны) і пісьменьнік Сакрат Яновіч (які, гаворачы пра беларускія справы, «выявіў нештадзённы дар сынтэзы», «сыпаў як з рукава фактамі пра польшчаньне на тэрыторыі Беласточчыны беларускіх геаграфічных назоваў»).

«Сымпозіюм, — піша газэта, — адчыніў важны фрагмэнт нашай сучаснасьці: мы — дзяржава не аднаэтнічная і ў моц нашага геаграфічнага палажэньня ніколі гэткай быць ня здолеем. Дык-жа дазвольма меншасьцям жыць як роўныя з роўнымі, без абліжэнсьці, фанабэрыі ды засьцярогаў, падаючы ў патрэбе руку дапамогі».

## «ТАМ, ДЗЕ БОГ ЧУЖЫ»

На старонках уплывовага каталіцкага часапісу The Tablet, што выходзіць у Лёндане, адбылася спрэчка вакол пасланьня а. Ўладыслава Чарняўскага ўдзельнікам канфэрэнцыі ў Лодзі. «Таблет» (12.III), пад заг. «Там, дзе Бог чужы», даволі поўна пераказаў зьмест пасланьня ды паінфармаваў пра асобнае выданьне яго беларускім выдавецтвам у Лёндане.

На гэтую інфармацыю зарэагаваў Енджэй Гетрых («Таблет», 2/9.IV). Сп. Гетрых напісаў, што паводля савецкае статыстыкі, у БССР жыве 539 тыс. Палякоў і што яны маюць права карыстацца польскай мовай. Мала таго, сп. Гетрых абвінаваціў а. Чарняўскага, што той, быццам-бы, памагае савецкаму рэжыму дэнацыяналізаваць Палякоў у БССР.

Гетрыху адказаў брытанскі аўтар, таксама лёнданец, Гай Пікарда. Сп. Пікарда перш-наперш зазначыў, што сп. Гетрых выкарыстаў перастарэлую статыстыку, бо паводля апошняга перапісу Палякоў у БССР налічвалася 382 тысячы, зь якіх толькі 50 тыс. сказалі, што іхная родная мова польская, 39 тыс. падалі, што іхная родная мова расейская, а 292 тыс. назвалі беларускую мову роднай. З гэтага відаць, зазначыў Г. Пікарда, што «Палякі» ў Беларусі — не этнічныя Палякі, а тыя «нядзельныя Палякі», пра якіх піша а. Чарняўскі. У канцы свайго допісу Гай Пікарда згадзіўся з выказваньнем латыскага кардынала Юліянса Вайводса, Апостальскага Адміністратара ў Рызе, які сказаў, што польскія ксяндзы «ня могуць перарабіць Беларусі ў Польшчу, і яны вынішчаюць вернікаў».

## БІСКУП МАТУЛЕВІЧ ПРА КАСЬЦЁЛ НА БЕЛАРУСІ

«З сумам і трывогай думаю я аб будучыні Касьцёла на Беларусі. Калі шукаю адпаведнага падабенства, прыпамінаюцца мне заўсёды Чэхі. Чаму ў Чэхаў Касьцёл, як кажа нам гісторыя, пацярпеў такія балючыя страты лікам і культурна-палітычныя? Прадусім затым, што быў гэта Касьцёл нямецкі на зямлі чэскай... Зусім тое самае на землях беларускіх, дзе Касьцёл выключна польскі... Баюся, што будучае, можа нават найбліжэйшае, пакаленьне сьведамых Беларусаў, усьведаміўшы сабе цалком вялікасьць зробленай гэтым нацыянальнай шкоды, пачуе глыбокі жаль да Касьцёла за векавую вынарадаўляючую палітыку мясцовых ягоных прадстаўнікоў. Вынікам гэтага, як ведама, заўсёды бывае ненавісьць, азяблась, многія (масавыя ды індывідуальныя) адступствы ад веры, імкненьні да тварэньня Касьцёла нацыянальнага».

(Зь перадавіцы «Чаму мы за беларускасьць у Касьцеле», «Хрысьціянская Думка», Вільня, № 1/103, 1935 г. «ХД» гэтыя словы Матулевіча ўзяла з час. «Przegl. Wil.», № 20, 1934).

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыялямі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# УШАНАВАНЬНЕ 70-Х УГОДКАЎ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БНР

*(Гл. таксама папярэдні нумар «Беларуса»)*

## ЛЁНДАН

Увечары 25 сакавіка ў капліцы сьвятых Пятра й Паўла на Фінчлей мітр. прат. а. Аляксандар Надсон у суслужэньні з а. К. Маскалікам адправілі багаслужбу за Беларускі Народ.

У нядзелю 17 красавіка адбылася сьвяткавальная ўрачыстасьць, наладжаная Лёнданскім аддзелам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі ў памешканьні Беларускай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Адчыняючы акадэмію, старшыня ЗБВБ сп. Я. Міхалюк прывітаў удзельнікаў, зачытаў прывітальныя лісты й тэлеграмы ад БАЗА, БІНіМ, газэты «Беларус», БВФ, Кліўлендзкага аддзелу БАЗА, сэктару Рады БНР у Бэльгіі, БНК у Зах. Нямеччыне, БЦК у Вікторыі (Аўстралія), Бел. Аб'едн. ў Зах. Аўстраліі, ЗБК, сьвяткавальнага камітэту ў Лёс-Анджэлесе, Бел. Каард. К-ту ў Чыкага, Бел. Сэкцыі Ватыканскага радыё.

Рэфэрат пра этапы крыжовай дарогі беларускага народу, ад сакавіка 1918 г. па сучаснасьць, прачытаў сп. А. Ражанец. Сп. Міхалюк паінфармаваў пра сучаснае палажэньне на Беларусі, дзе пашыраецца рух за аднаўленьне правоў беларускай мовы. Быў прадэклямаваны верш Ю. Весялкоўскага «25-га Сакавіка».

Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну. Быў праведзены збор грошай у фонд Рады БНР. Адбыўся пачастунак.

**А. З.**

* * *

У былой рэзыдэнцыі лёрда Пальмэрстона, брытанскага прэм'ера й міністра замежных справаў, цяпер перайменаванай у Морскі й Ваенны Клюб, што знаходзіцца на Пікадылі ў цэнтры Лёндану, адбылося прыняцьцё з нагоды 70-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР, арганізаванае Англа-Беларускім таварыствам. На ўрачыстасьць прыбыло больш за 80 гасьцей і сяброў Таварыства з палітычнага й навуковага сьвету. Былі прадстаўнікі Вялікабрытаніі, Альбаніі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Румыніі, Украіны, Чэхаславаччыны, Югаславіі, а таксама Міжнароднай Амністыі й лёнданскага друку.

Старшыня Англа-Беларускага Т-ва праф. Джэймс Дынглі коратка паінфармаваў пра навукова-выдавецкую дзейнасьць Таварыства, узьняў тост за будучыню вольнай і незалежнай Беларусі. Падаючы пра гэтае сьвяткаваньне, Крыстына Асіповіч, аўтарка допісу ў лёнданскі «Дзеньнік польскі» (4.V.), адзначыла спраўную арганізацыю ўрачыстасьці ды прыемную атмасфэру.

(Паводля газэты «Dziennik Polski i Dziennik Żołnierza" No. 105, 4.05.88.

## АДЭЛЯЙДА (АЎСТРАЛІЯ)

Беларусы Адэляйды адзначылі ўгодкі Акту 25 Сакавіка ў нядзелю 27-га. Пасьля літургіі а. Міхась адслужыў малебен за Беларусь. Хор на гэты дзень быў у поўным складзе, вельмі добра сьпяваў пад кіраўніцтвам сп. Уладзімера Калесьніковіча. Па багаслужбе адбыўся ў прыцаркоўнай залі прыгатаваны жанчынамі пачастунак. Айцец Міхась блаславіў ежу, хор прасьпяваў беларускі гімн. Сп. Калесьніковіч прачытаў прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў і цікавы рэфэрат. На гэтым афіцыйная частка скончылася.

У часе спажываньня ежы сп. Віктар Зеляневускі выступіў з гумарыстычным вершам, што ўсіх расьсьмяшыў. У гутарках на розныя тэмы прыемна прайшоў час да чацьвертай гадзіны папаўдні.

**У. Акавіты**

## КРАНУЛЬЛЯ (АЎСТРАЛІЯ)

Сп. Янка Гавенчык, у сувязі зь 70-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці БНР, паслаў члену аўстралійскага парлямэнту Доналду Бобі, шчыраму прыхільніку Беларусаў, вялікі інфармацыйны матар'ял пра Беларусь і ейную палітычную гісторыю. Гэткіж матар'ял паслаў сп. Гавенчык у міністэрства замежных справаў Аўстраліі ды новаму прэм'еру свае правінцыі. Сп. Добі выкарыстаў атрыманы матар'ял для паінфармаваньня лідэра парлямэнцкае апазыцыі сп. Джона Гаўарда, на што Гаўард адказаў Добі лістом, у якім зазначыў, што кааліцыя аўстралійскіх партыяў сыстэматычна падтрымвае справу самавызначэньня народаў і правы чалавека, як гэта прадугледжана Гэльсынскімі пагадненьнямі, і папрасіў перадаць сп. Гавенчыку свае найлепшыя пажаданьні.

### ПОЛЬСКАЯ ГАЗЭТА ПРА БЕЛАРУСКІЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ

**Выдаваная ў Чыкага польская газэта Dziennik Związkowy (22.III) зьмясьціла інфармацыйны артыкул пра сёлетняе ўшанаваньне Беларусамі Чыкага 70-годзьдзя незалежнасьці БНР і 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі.**

## ЧЫКАГА

### САКАВІКОВАЯ ВЫСТАЎКА

Сёлетняя беларуская выстаўка ў Цэнтры імя Дэйлі, вельмі людным месцы гор. Чыкага, трывала ад 21-га сакавіка да 4-га красавіка. Мэтай выстаўкі было паказаць дакумэнтацыю пра Акт 25 Сакавіка, даць інфармацыю пра Беларусь, ейныя дасягненьні ў прамысловасьці, мастацтве, музыцы ды спорце. Экспанаты былі разьмешчаныя на трох падвойных панэлях, у дзьвюх зашклёных шафах ды двух стэндах (зашклёных сталох). У адной шафе экспанаваліся вышыўкі, беларускія лялькі ды ваза зь беларускім дэсэнем. У другой шафе — цэсьць пано з фальклёрнымі сцэнкамі, прыгожа выраблены з дрэва сэрвіс на напіткі, шкатулка ды імпазантны зубр. На аднэй з панэляў быў вывешаны назоў Беларусі ў арыгінальным гучэньні, а побач — беларускі сьцяжок, васількі, Пагоня, пасярэдзіне — Акт 25 Сакавіка ў ангельскай мове, праклямацыі «Дня Незалежнасьці Беларусі» ад губэрнатара штату Іліной Джэймса Томпсана й мэра Чыкага Аўгена Соера, кароткая даведка пра Беларусь ды інш.



*Цэнтральная панэль выстаўкі*

На другой панэлі: два беларускія альфабэты, лісток зь беларуска-расейскага слоўніка, каб паказаць моўную розьніцу; верш З. Бядулі «Прысяга» ў ангельскім перакладзе, фатаграфія аўтара вершу ды верш Я. Купалы «А хто там ідзе?» пабеларуску, парасейску, пажыдоўску й паангельску, фатаграфія Купалы.

На трэйцяй панэлі: карты Беларусі, партрэты Скарыны, Каліноўскага, Багушэвіча, Шагала, братоў Луцкевічаў, А. Уласава, П. Крэчэўскага, Ольгі Корбут і касманаўта Клімука. На чацьвертай: фатаздымкі алімпійскіх чэмпіёнаў Беларусі й спартовых будынкаў Менску. На пятай: розныя мадэлі трактара «Беларус», што прадаецца па цэлым сьвеце і тут у Амэрыцы. На шостай: здымкі танцавальных, харавых ды вакальна-інструмэнтальных ансамбляў Беларусі, будынку опэры й балету. На адваротных баках панэляў былі ўдала разьвешаныя ручнікі й дзяружкі.

На адным із стэндаў былі выложаныя вышыўкі, пояс, крават, шкатулкі ды іншае, а на другім — вышыўкі, кніжкі пра мастацтва Беларусі, канвэрты да 1000-годзьдзя хрысьціянства, выдадзеныя Беларускім Каардынацыйным Камітэтам у Чыкага, філятэлістычныя канвэрты з Пагоняй, Ольгай Корбут ды з гэрбам Горадні.

Трэба тут зацеміць, што сёлета ў гарадзкой управе Чыкага была вывешаная павялічаная праклямацыя мэра гораду з нагоды 25 Сакавіка.

Як і папярэднімі гадамі, колькі наведнікаў звярачалiся да арганізатараў выстаўкі з просьбай паінфармаваць іх аб тэй ці іншай мясцовасьці Беларусі, адкуль прыехалі іхныя бацькі або дзяды.

Выстаўку ўдала зрыхтавалі сп-тва Люня й Антон Беленісы, сп. Нік Жызьнеўскі й сп-ня Вера Рамук.

**Др. Вітаўт Рамук**

## ШВАЙЦАРСКАЯ ГАЗЭТА ПРА ЗМАГАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ

Вялікая швайцарская газэта Der Bund (Бэрн, 26.III.88) зьмясціла артыкул Ганса Рыхэнэра з падрабязным апісаньнем змаганьня Беларусаў у СССР за культурную аўтаномію. Артыкул суправаджаецца картай Беларусі.

Карэспандэнт «Бунду» на пачатку свайго артыкулу піша пра канчальную мэту, якую паставіў перад сабою савецкі камунізм — «зьліцьцё» ўсіх народаў сьвету ў адну аднамоўную масу. Рыхэнэр цытуе з савецкае «Філязофскае энцыклапэдыі» 1967 году выданьня (т. IV, б. 14).

Далей аўтар падае статыстыку Беларусаў (10 млн.) і піша, як беларуская мова перасьледавалася за царскімі часамі, як Беларусы змагаліся за незалежнасьць, згадвае Ўсебеларускі Кангрэс 1917 году, піша пра страту Беларусяй больш за тры мільёны жыхароў у выніку рэпрэсіяў савецкага рэжыму. Аўтар спасылаецца на весткі, атрыманыя ад аднаго зь вядучых дзеячоў беларускае эміграцыі сп. Уладзімера Бортніка. Далей у артыкуле дэтальна пераказаны зьмест трох лістоў ад Беларусаў да Гарбачова і кнігі Алега Бембеля пра беларускую мову ў БССР, апублікаваных Згуртаваньнем Беларусаў у Вялікабрытаніі.

### РЭКТАР БДУ Ў ЗША

Газэта Staten Island Advance (13.I.88) падала пра наведаньне трыма савецкімі ўнівэрсытэцкімі адміністратарамі (у ліку іх — рэктар Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту Леанід Кісялёўскі) Статэнайлендзкага Каледжу (Статэн-Айленд — частка гор. Нью-Ёрку). З трох наведнікаў толькі Кісялёўскі валодае ангельскай мовай. Кісялёўскі адказваў на пытаньні пра савецкую асьвету. Беларусь, сказаў рэктар БДУ, мае цяпер тры ўнівэрсытэты й 33 тэхнічныя ВНУ.

### КАБ КОЖНЫ ВЕДАЎ МОВУ

«Заслугоўваюць увагі пытаньні разьвіцьця беларуска-расейскага двумоўя... Трэба весьці справу да таго, каб кожны жыхар нашай рэспублікі добра ведаў беларускую й расейскую мовы, добра валодаў беларускай і расейскай гаворкай».

*— Яфрэм Сакалоў, першы сакратар ЦК кампартыі Беларусі ў дакладзе на Х-м пленуме ЦК КПБ, «Советская Белоруссия», 14.V.1988.*

 








*Сьвяткавальная картка беларускіх студэнтаў у Польшчы*

## «АРХІЎНЫ СШЫТАК»

**Дакумэнтацыя беларускага жыцьця ў Беластоцкім Краі**

Летась у Беластоку выйшла кніга на 160 старонак машынапіснага друку поўнага фармату. У ёй зьмешчана 50 матар'ялаў у беларускай і польскай мовах: лісты, пратаколы, даклады, выпіскі з польскага друку, знатоўкі, нават вершы. У канцы зборніка рэдактары, не назваўшы сваіх прозьвішчаў — выданьне неафіцыйнае! — паясняюць коратка прызначэньне кнігі (падаём поўны тэкст):

«Сшытак выдаецца дзеля дакумэнтацыі праяваў беларускага жыцьця ў Беластоцкім Краі. Публікуем перад усім усё тое, што ня мае шанцаў на публікацыю ў афіцыйных выданьнях і магло-б з часам загінуць.

«Матар'ялы публікуюцца ў храналягічным парадку і без скарачэньняў. Поўнасьцю захавана форма і зьмест арыгіналаў.

«Частку матар'ялаў, па жаданьні аўтараў, апублікавана ананімна. Іншыя-ж бязь ведама й згоды аўтараў, што за кожным разам адзначана.

«Сшытак публікуецца абмежаваным тыражом і не прызначаны ён для шырэйшага распаўсюджаньня. Перадрук матар'ялаў дазваляецца пры ўмове спасылкі на крыніцу.

«Рэдактары не прэтэндуюць на вычарпальнасьць».

Выдаўцы гэтае кнігі прарабілі вялікую работу, сабраўшы самыя розныя дакумэнты й матар'ялы за пэрыяд ад верасьня 1983 г. па кастрычнік 1987 году. У іх адлюстраваныя галоўна праблемы існаваньня беларускае нацыянальнае мяншыні ў Беластоцкім Краі і ў складзе польскае дзяржавы. Існаваньне гэтае няпростае й нялёгкае, у шмат якіх выпадках на краю выжываньня.

Для дасьледніка беларускай праблематыкі — гэта каштоўная перашакрыніца, за якую выдаўцом належыцца шчырая падзяка.

## «ПАПЛЕЧНІКІ» СТАЛІНА: ЦАНАВА, БЕРМАН

Газэта «Советская Белоруссия» (23.III.88) надрукавала артыкул А. Майсені пад заг. (слова ўзятае ў двукосьсе) «Паплечнікі» — пра тэрарыстаў-паплечнікаў Сталіна на Беларусі: Лаўрэнцыя Цанаву, які па вайне быў камісарам нутраных справаў БССР, ды «монстра беспрынцыповасьці й дагаджаньня» Бермана. Берман, «капіюючы маскоўскія працэсы, арганізоўваў у Беларусі гучныя судовыя расправы». «Бязьлітасным перасьледам, — піша Майсеня, — была паддадзеная ў 1937 г. навуковая й культурная інтэлігенцыя... паводля наказу 'зьверху' дакладна распрацавалася грандыёзная справа 'контррэвалюцыйнай змовы' ў Беларусі. У сваім халуйскім гарце Берман апутваў густой сеткай хлусьні, паклёпаў, падтасовак кіраўніцтва рэспублікі».

Падобныя расправы па вайне ўжо праводзіў і падхалім Бэрыі Цанава, якога Майсеня называе «прадуктам неразьвітага мысьленьня».

Вялікі артыкул Майсені канчаецца гэткімі словамі: «У гісторыі, як і ў рэальным жыцьці, жывуць і дзеюць разам розныя людзі, гэроі й злачынцы. Ні тых, ні другіх зь гісторыі выкінуць ня можа. Імёны гэрояў служаць для нас маральным арыентырам, імёны мярзотнікаў — перасьцярагаю».

Паказальна, аднак, што прозьвішча Л. Цанавы, міністра рэспублікі й аўтара двутомавае працы аб партызанскім руху на Беларусі ў гадох Другой сусьветнай вайны, няма ні сьледу ані ў Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі ані ў пяцітомавай «Гісторыі Беларускай ССР». Нічога ў гэтых выданьнях, пэўна-ж, не сказана й пра тую чорную работу, якую выконвалі ў Беларусі Цанава, Берман і да іх падобныя «паплечнікі». Дык якая сёньня пазнавальная вартасьць БелСЭ і «Гісторыі Беларускай ССР»?..

## ХТО ПРАДСТАЎЛЯЕ БЕЛАРУСАЎ?

**А. Вазьнясенскі пра В. Быкава і Ул. Бягуна**

Расейскаму савецкаму паэту Андрэю Вазьнясенскаму ў інтэрв'ю газэце «Новое Русское Слово» (Нью-Ёрк, 13.IV.88) было пастаўленае пытаньне пра артыкул у беларускай партыйнай газэце 22 чэрвеня 1987 г., у якім пісалася, што «паэт А. Вазьнясенскі выступіў з крыклівай кампаніяй у сувязі із стагодзьдзем ад нараджэньня мастака-мадэрніста Маркі Шагала», якога партыйны орган залічыў да ворагаў савецкае ўлады. Вазьнясенскі адказаў:

«Былі і іншыя: ужо адкрыта чарнасоценныя опусы. У. Бягуна, прыкладам. Расейская інтэлігенцыя ніколі не падавала рукі чарнасоцэнцам. Беларускага народу гэтыя цёмныя тыпы не прадстаўляюць, аб беларускім народзе я мяркую па Васілю Быкаву. Я дастаў шмат лістоў-пратэстаў супраць гэтага бруду, у тым ліку ад Беларусаў. Галоўна, што адбылася выстаўка вялікага мастака (М. Шагала) ў маскоўскім Музэі імя Пушкіна. 'Сабака брэша — караван ідзе'. Людзі стаялі па 24 гадзіны ў чарзе, каб паглядзець жывапіс».

## ПРОСЬБА ДА ГАРБАЧОВА ВЯРНУЦЬ КАСЬЦЁЛ

Выдаваная ў Парыжы газэта «Русская мысль» (8.I.88), а за ёю рэлігійная прэсавая служба ў Лёндане Keston News Service, швайцарскі інстытут Glaube in der 2. Welt ды ўкраінскі часапіс «Вісті з Риму» (сакавік 1988) падалі вестку пра заяву-просьбу ад вернікаў гарадзкога пасёлку Відзы Браслаўскага раёну Віцебскай вобласьці да савецкага лідэра Гарбачова аб звароце ім іхнага касьцёлу. Ніжэй падаём поўны тэкст заявы, як яго падала «Русская мысль».

**Паважанаму генэральнаму сакратару ЦК КПСС Гарбачову Міхаілу Сяргеевічу. Ад жыхароў гарадзкога пасёлку Відзы і шмат якіх іншых вёсак Браслаўскага раёну Віцебскай вобласьці.**

ЗАЯВА-ПРОСЬБА

Мы, людзі нашага пасёлку і ўсіх навакольных вёсак, як і ўсе савецкія людзі, сочым і ўхваляем вашу палітыку — палітыку міру й дэмакратыі, палітыку перабудовы. Умацоўваецца працоўная дысцыпліна, паляпшаюцца ўмовы працы й быту. Сваёй працай кожны з нас робіць хоць-бы маленькі ўклад у агульную справу нашай радзімы.

Мы ўсе пастанавілі зьвярнуцца да вас, Міхаіл Сяргеевіч, зь вялікай просьбай ад імя ўсіх вернікаў нашага прыходу. У нас у пасёлку ёсьць рымска-каталіцккі касьцёл вельмі рэдкай архітэктуры. Нашыя людзі кажуць, што ён сваім прыгаством займае другое месца ў Эўропе.

Мы вельмі вас просім, каб нам касьцёл аддалі й дазволілі там паводля абраду рымска-каталіцкага маліцца.

Відзаўскі касьцёл пачалі будаваць у 1880 г. на сродкі прыхаджанаў, а ў 1914 г. ён быў скончаны. У 1950 г.



*Троіцкі касьцёл у Відзах*

ён быў зачынены ўладамі, а дзеля якое прычыны, ніхто й сёньня ня ведае. Сёньня будынак бязь ніякага догляду, гаспадара над касьцёлам няма. Зьнішчаць ёсьць гаспадары, а валодаць і карыстацца няма нікога. У нашым пасёлку і навакольных вёсках ёсьць шмат вернікаў, паводля ранейшае заявы — 5 тысячаў. У 1984 г. мы паслалі ліст і сабралі пэўную колькасьць подпісаў вернікаў; паслалі ў Савет Міністраў Беларускай ССР і ў Маскву, у Савет да справаў рэлігіяў.

Савет да справаў рэлігіяў 25 красавіка 1984 г. пад № 1185 паведаміў, што наша заява сьціраваная на разгляд упаўнаважанаму Савету па Віцебскай вобласьці, дзе справа гэтак і засела, як у зачараваным коле.

Мы верым у вашу, Міхаіл Сяргеевіч, гуманную палітыку і думаем, што не адмовіце ў нашай просьбе. Вельмі просім вас разьвязаць справу і загадзя дзякуем.

**Грамада вернікаў**
**(419 подпісаў**

**23 сьнежня 1987 г.**

## «ХРЫСЬЦІЯНСТВА Й БЕЛАРУСКІ НАРОД»

**Канфэрэнцыя ў Лёндане**

У Лёндане ў Бібліятэцы імя Ф. Скарыны адбудзецца 1-2.X.1988 г. канфэрэнцыя з гэткімі дакладчыкамі й тэмамі: **праф. Джэймс Флін** (ЗША) — «Дасьледаваньне ў галіне гісторыі Царквы ў Беларусі: жыцьцё й дзейнасьць Ёзафата Булгака, апошняга вуніяцкага мітрапаліта ў Расейскай імпэрыі»; **др. Мацей Сякерскі** (ЗША) — «Каталіцкая рэфармацыя ў цэнтральнай Беларусі: рэлігійны патранат князя Крыштафа Радзівіла 'Сіроткі'»; **праф. Арнольд МакМілін** (Лёндан) — «Беларуская духоўная паэзія пачатку XX ст.»; **Веры Рыч** (Лёндан) — «Хрысьціянства ў Беларусі паводля ісьляндзкіх крыніцаў»; **Міхал Гейдрайць** (Оксфард) — «Усходняя Царква ў Беларусі, 1300-1458 гг.»; **Гай Пікарда** (Лёндан) — «Беларуская царкоўная музыка XX ст.»; **праф. Мікола Давідзюк** (Лодзь) — «Спробы беларусізацыі Праваслаўнай Царквы і палітыка польскіх дзяржаўных уладаў, 1919-1939 гг.»; **Антон Міраповіч** (Беласток) — **«Роля праваслаўных царкоўных брацтваў у разьвіцці беларускай культуры й асьветы ў XVI-XVII ст.»; а. Аляксандар Надсон** (Лёндан) — «Каталіцкая Царква ў Беларусі, 1918-1939 гг.».

**Даклады будуць чытаныя або паангельску або пабеларуску, у залежнасьці ад дакладчыка.**

## МІТРАПАЛІТ МЕНСКІ НА СУСТРЭЧЫ З ГАРБАЧОВАМ

Газэта «Зьвязда» (1.V) падала паведамленьне ТАСС пра сустрэчу ген. сакр. ЦК КПСС М. Гарбачова з Патрыярхам Маскоўскім Піменам, якога суправаджалі іншыя гіерархі Расейскай Праваслаўнай Царквы, у тым ліку й Мітрапаліт Мінскі й Беларускі Філарэт. Гарбачоў сказаў уладыкам, што «1000-годзьдзе ўвядзеньня хрысьціянства на Русі... атрымала ня толькі рэлігійнае, але і грамадзка-палітычнае гучаньне, бо гэта знамянальная вяха на многавяковым шляху разьвіцьця айчыннай гісторыі, культуры, рускай дзяржаўнасьці». Гарбачоў паінфармаваў таксама, што цяпер «выпраўляюцца памылкі, дапушчаныя ў адносінах да царквы і веруючых у 30-я і наступныя гады» ды што «цяпер распрацоўваецца новы закон аб свабодзе веравызнаньня».

Друк БССР ніякіх аднак самастойных матар'ялаў пра палепшаньне рэлігійнага жыцьця на Беларусі тымчасам ня публікуе.

## «ВЕСЬНІК» № 1(4)

**Беларускага Каталіцкага Душпастырства**

У нумары (4 бб.): «Крыж і Ўваскрасеньне», вялікодная казань а. Ал. Надсона; каляндар урачыстасьцяў 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі; інфармацыя пра 40-годзьдзе Беларускай царквы сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Лёндане, пра выдавецтва «Божым Шляхам» ды публікацыю «Ліст сьвятара» зь Беларусі.

 

# КСЁНДЗ АДАМ СТАНКЕВІЧ

Адам, сын Вінцука й Антаніны Станкевічаў, нарадзіўся 24 сьнежня (ст. стылю) 1891 г. ў вёсцы Арляняты каля Крэва. Вучыўся ў Барунах і Ашмяне, пазьней — у Віленскай Каталіцкай Духоўнай Сэмінарыі, якую скончыў і быў высьвечаны на ксяндза 10 студзеня 1915 году.

Далей пэўны час быў у Духоўнай Акадэміі ў Петраградзе, а па вайне яшчэ два гады вучыўся на факультэце права Ўнівэрсытэту Стэфана Батора ў Вільні.

Ужо ў часе навукі ў сэмінарыі аддаўся арганізаваньню беларускага нацыянальнага руху. У 1922 годзе ў выбарах 5 лістапада кс. А. Станкевіч быў абраны за пасла ў польскі Сойм, як адзін з кандыдатаў Беларускага Цэнтральнага Выбарчага Камітэту. У тых выбарах ад беларускага жыхарства ўвайшло ў Сойм адзінаццаць асобаў і тры асобы ў Сэнат. У Сойм былі выбраныя: кс. Адам Станкевіч, Сяргей Баран, Міхал Кахановіч, Уладзімер Каханоўскі (ягонае месца заняў Павал Валошын), Пётр Мятла, Сымон Якавюк, Антон Аўсянік, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Васіль Рагуля, Фабіян Ярэміч і Браніслаў Тарашкевіч. Яны стварылі Беларускі Пасольскі Клюб (БПК), старшынём якога стаўся Б. Тарашкевіч, а ягоным намесьнікам кс. А. Станкевіч. У Сэнат увайшлі: Вячаслаў Багдановіч, Аляксандар Уласаў і Аляксандар Назарэўскі.

У чэрвені 1925 г. ў БПК дайшло да расколу. Частка паслоў на чале з Тарашкевічам, арыентуючыся на беларускае дзяржаўнае будаўніцтва ў БССР, парвала зь незалежніцкім кірункам БПК і ўтварыла свой асобны клюб новай партыі, Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Рэшта паслоў БПК — кс. Станкевіч, Рагуля, Ярэміч — стварылі Беларускі Сялянскі Саюз.

У міжчасе духоўныя ўлады забаранілі ксяндзом належаць да палітычных партыяў. Кс. Станкевіч стаўся неафіцыяльным лідэрам Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі (БХД), заснавай у канцы 1926 году, якая супрацоўнічала зь Сялянскім Саюзам.

У 1926 г. кс. Станкевіч быў адным з заснавальнікаў беларускай друкарні ім. Францішка Скарыны ў Вільні і ейным апякуном. Думка пра заснаваньне свае друкарні сярод беларускіх дзеячоў узьнікла ўжо ў 1925 г., калі сьвяткавалі 400-годзьдзе беларускага друку ў Вільні. Да рэалізацыі гэтага намеру дайшло ў 1926 годзе. Арганізавала друкарню ціхая суполка, у якую ўваходзілі: кс. А. Станкевіч, пасол Фабіян Ярэміч, кс. Вінцэнт Гадлеўскі ды ігумен манастыра айцоў Марыянаў у Друі кс. Андрэй Цікота.

Ад 1927 г. кс. Станкевіч выдаваў месячны часапіс пад назовам «Хрысьціянская Думка», які быў рэлігійным часапісам каталікоў. Але, калі ў 1936 г. польскія ўлады забаранілі выданьне газэты «Беларуская Крыніца» і не далі дазволу на выданьне заміж яе новай газэты, дык пад назовам «Хрысьціянская Думка» выдавалася тыднёвая газэта агульнабеларускага характару.

Кс. А. Станкевіч праводзіў думку цеснага супрацоўніцтва зь Літоўцамі і Ўкраінцамі. У гадох спыненьня польскімі ўладамі беларускага арганізаванага жыцьця ў Заходняй Беларусі каля кс. Станкевіча згуртаваліся групы як левага, так і правага кірунку. У апошніх гадох перад вайной кс. Станкевіч стаўся свайго роду правадыром Беларусаў у Заходняй Беларусі. За гэта 12 сьнежня 1938 г. польскія адміністрацыйныя ўлады выслалі яго зь Вільні. Жыў ён у Слоніме. У Вільню вярнуўся ўвосень 1939 году.


*Кс. Адам Станкевіч у канцы 1930-х гг.*

У канцы 1939 г. савецкі ўрад перадаў Вільню з акругай Літве. Кс. А. Станкевіч разам зь інж. А. Клімовічам зрабілі шмат стараньняў, каб аднавіць беларускае арганізацыйнае жыцьцё ў Віленскай акрузе пад Літвой. Пачала працаваць Беларуская Гімназія ў Вільні, дырэктарам якой быў цяпер сам кс. Станкевіч. Было ўзноўленае выданьне беларускай газэты пад назовам «Крыніца». Пачало працу й Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства ў Вільні, як аддзел падобнага таварыства, што існавала ў Літве. У касьцеле сьв. Міхала ў Вільні кс. Станкевіч адпраўляў набажэнствы для Беларусаў-каталікоў.

У 1939-40 г.г. беларускае грамадзтва ў Вільні адзначыла 25-я ўгодкі сьвятарства кс. Адама Станкевіча. З гэтай нагоды ў 1940 г. ў Вільні выйшла з друку праца мгр. Яна Шутовіча пад заг. «Кс. А. Станкевіч у 25-я ўгодкі сьвяшчэнства». Былі нават у тым годзе пагалоскі, што кс. Станкевіч — кандыдат на епіскапа ў Вільні.

Кс. А. Станкевіч пакінуў па сабе друкаваныя працы (усе выдадзеныя ў Вільні): «Доктар Франьцішак Скарына» (1925), «Беларуская мова ў школах Беларусі. XVI-XVII стагодзьдзі» (1928), «Родная мова ў сьвятынях» (1929), «Францішак Багушэвіч» (1930), «Вітаўт Вялікі і Беларусы» (1930), «Казімір Сваяк» (1933), «Кастусь Каліноўскі 'Мужыцкая праўда' і Ідэя Незалежнасьці Беларусі» (1933), «Праф. Браніслаў Эпімах-Шыпіла» (1935), «Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня» (1935), «З жыцьця і дзейнасьці Казіміра Сваяка» (1936), «Магнушэўскі, Паўлюк Бахрым, Баброўскі» (1937), «Божае слова на нядзелі і сьвяты» (1938), «Лекцыі і эванэліі на нядзелі і сьвяты» (1938), «Міхась Забэйда-Суміцкі» (1938), «У чэсьць 950-годзьдзя хрышчэньня Беларусі» (1938), «Беларускі хрысьціянскі рух» (1939), «Хрысьціянства і Беларускі Народ» (1940).

Кс. Адам Станкевіч выкарыстоўваў кожную магчымасьць, якая давала штосьці для беларускасьці. Калі ў апошніх гадох перад вайной польскія ўлады ліквідавалі рэшту беларускіх арганізацыяў і газэтаў ды пашыралі прапаганду, што ў Польшчы няма нічога беларускага, кс. Станкевіч пастанавіў выкарыстаць свабоду, якая была ў Польшчы для рэлігіі. Тады быў звычай «хадзіць у Кальварыю». Зь ініцыятывы кс. Станкевіча, пачынаючы ад 1937 году, штагоду напрыканцы чэрвеня ў Кальварыю пачала хадзіць беларуская працэсія. Па вуліцах Вільні і ў Кальварыі гучэлі беларускія песьні, ксяндзы-Беларусы гаварылі да народу пабеларуску пропаведзі. У гэткім паходзе бралі ўдзел ня толькі Беларусы-каталікі, жыхары Вільні, але таксама й з падвіленскіх ваколіцаў. А аднаго разу прыйшла група на чале зь Міхалінай Татарыновіч аж зь Ляхавіч.

У 1939 годзе на чале паходу ішла дружына беларускіх скаўтаў Віленскай Беларускай Гімназіі, зь якіх хіба ніхто каталіком ня быў. Рэлігійная цырымонія канчалася супольным сьпяваньнем беларускага рэлігійнага (каталіцкага) гімну «Божа, што калісь народы паасобку падзяліў».

У Вільні кс. Станкевіч нейкі час жыў пры касьцеле сьв. Мікалая на завулку сьв. Мікалая. Каля 1935 г. перайшоў на кватэру, якую трымала Марыя Шутовіч, пры Полацкай вул. № 9. Там затрымваўся сьпявак-Беларус Міхал Забэйда-Суміцкі. Там таксама жыло некалькі беларускіх студэнтаў, у тым ліку аўтар гэтага артыкулу.

Улетку 1941 г. пачалася вайна. Беларусь занялі Немцы. Кс. А. Станкевіч застаўся верны свайму незалежніцкаму становішчу, ад нямецкіх уладаў трымаўся далёка. Калі ў часе ваенных падзеяў прыяцелі раілі яму выехаць за мяжу, ён адказваў: «Дабравольна сваёй зямлі ніколі не пакіну». На трэйцім годзе па вайне ён быў арыштаваны ў Вільні, суджаны ды высланы ў лягер Тайшэт, дзе неўзабаве й памёр.

Некалькі гадоў па сьмерці кс. Станкевіча, на ўшанаваньне ягонае памяці, стараньнем Марыі Шутавічанкі, за дробныя грамадзкія складкі, на магільніку каля Крэва, мясцовасьці нараджэньня кс. Станкевіча, быў пастаўлены помнік з надпісам: «Сьв. пам кс. Адам Станкевіч — 1891-1949».

Выдатны грамадзка-культурны дзеяч, палымяны патрыёт Беларусі. Памёр у Іркуцкай вобл. Вечная Яму чэсьць і слава! 'Высока ў буру і ў непагоду Ты родны сьцяг і крыж трымаў, між беларускага народу Сьвятую праўду засяваў».

Ніжняя частка помніка прысьвечаная памяці маці кс. Станкевіча, Антаніне Станкевіч.

**Віктар Ярмалковіч**

## ВІКТАР ЯРМАЛКОВІЧ

Сьветлай памяці Віктар Ярмалковіч, аўтар артыкулу пра кс. Адама Станкевіча, памёр 15 сьнежня 1987 г. ў Польшчы. Нябожчык паходзіў зь вёскі Юшкі былога Віленска-Троцкага павету, цяпер у Літоўскай ССР. Ярмалковіч скончыў Віленскую Беларускую Гімназію і факультэт права Віленскага ўнівэрсытэту. За беларускую грамадзка-палітычную дзейнасьць перасьледаваўся польскімі ўладамі, а па вайне быў суджаны літоўскімі камуністамі й сасланы ў Сібір. У выніку хрушчоўскай амністыі перабраўся ў Польшчу, дзе працаваў зубным тэхнікам. Выйшаўшы на пэнсію, шмат пісаў аб жыцьці Беларусаў у міжваеннай Польшчы. Ягоныя артыкулы друкаваліся ў польскіх і беларускіх часапісах.

***ПАДПІШЭЦЕСЯ НА «БЕЛАРУСА»***

# 1000-ГОДЗЬДЗЕ ХРЫСЬЦІЯНСТВА Ў БЕЛАРУСІ

**Мэльбурн, Аўстралія.** — 24-га сакавіка пасьля літургіі, адслужанай у сьвятыні БАПЦ ейным настаяцелем а. прат. А. Кулакоўскім і а. М. Бурносам, гасьцём з Адэляіды, быў адпраўлены ўрачысты малебен ў суслужэньні зь пяцьма іншымі сьвятарамі, гасьцямі братніх Цэркваў у Мэльбурне.

Вялікі як ніколі лік сьвятароў узмоцнены хор, поўная царква вернікаў ды добрае надвор'е стваралі вельмі ўрачысты настрой. Над алтаром красаваўся надпіс (паангельску): «1000-ГОДЗЬДЗЕ ХРЫСЬЦІЯНСТВА БЕЛАРУСІ».

Пасьля багаслужбаў у залі македонскай царквы, што недалёка ад беларускай, адбыўся банкет з прамовамі й цікавым канцэртам. Урачыстасьць пачалася аўстралійскім гімнам, выкананым мясцовым хорам ды супольна прасьпяванай малітвай «Ойча наш».

Быў прачытаны на тэму дня зьместоўны рэфэрат і адбыўся канцэрт мастацкага гуртка «Каліна». Усе ў нацыянальнай вопратцы выглядалі сьвяточна. Выконваныя песьні й танцы выклікалі гучныя «брава» й «бісы». Сп. А. Груша рашучліў усіх прадэклямаваным зь вялікім пачуцьцём вершам Янкі Купалы. Супольна адсьпяваным гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» ўрачыстасьць закончылася.

Трэба зазначыць, што сьвяткаваньне прайшло вельмі добра, за што арганізатарам, выканаўцам ды госьцям, што жадалі Беларусам удачаў у далейшай працы, належыцца шчырая падзяка.

**М. Н.**

## БЕЛАРУСКАЯ ЦАРКВА КАЛЯ РЫГІ

«...У майстэрні мастака Вячкі Целеша, нашага земляка, які ўжо гадоў дваццаць жыве ў Рызе, я разглядаў старыя паштоўкі. Цяжка гаварыць аб захопленым чалавека, калі яно на ўзроўні прафэсіяналізму. Калекцыянаваньне паштовак бязь веданьня гісторыі немагчымае. Зразумеўшы гэта, я ўзяўся вывуджваць патрэбныя мне зьвесткі. Вячка падумаў, прайшоў да стэлажоў з кнігамі, дастаў часапіс і, разгарнуўшы, паклаў на стол. На фатаграфіі была паштоўка, на паштоўцы — царква.

— Ну і што?

— Што! Царква-ж беларуская. Барока.

...У XV стагодзьдзі ў адным зь літаратурных помнікаў тых гадоў упамінаецца царква сьвятога Міколы на востраве Кліверсгольм побач з Рыгай. Відаць, тады полацкія купцы, якія мелі гандлёвы дагавор з рыскімі, адвялі для сябе, доўга тут гасьцюючых, месца для сустрэчаў і адпачынку. Цяпер яе ўжо няма, але любы мясцовы жыхар укажа месца, дзе стаяла беларуская царква».

(П. Марцаў, спэц. кар. БЕЛТА. Рака нашай памяці. «Чырвоная Зьмена». 29.XII.87).

### *9 ВЕРШАЎ Л. ГЕНІЮШ*

Летась у Беластоку былі выдадзеныя асобным зборнічкам, лацінкаю, дзевяць вершаў Ларысы Геніюш, напісаных у пэрыядзе 1977-1981 гадоў. Вершы калядна-навагоднія, рэлігійныя. У ўступе (непадпісаным) сказана, што яны публікуюцца ўпяршыню, але некаторыя зь іх, калі не памыляемся, зьмяшчаліся ў «Беларусе» (бяз прозьвішча аўтаркі).

## ПРЫНЯЦЬЦЁ ЦАРКОЎНАМУ ХОРУ

Парафіяльная рада царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе штагоду ладзіць царкоўнаму хору прыняцьцё, якім у асноўным выказваецца падзяка харыстам за іхнюю ахвярную працу ў часе царкоўных літоўны настрой, падзякаваў усім за супрацоўніцтва й пажадаў добрага здароўя, плённай працы на карысьць Беларускае Аўтакефальнае Царквы.

Кіраўнік хору К. Калоша ў сваім выступленьні коратка сказаў пра стан



*Удзельнікі прыняцьця*

службаў. Сёлета такое прыняцьцё было наладжанае ў сыботу 6 лютага. На банкет запрашаюцца перш-наперш харысты, найбліжэйшыя сваякі іх, па адным ад сям'і, царкоўны прычт з прыслужнікамі ды сябры парафіяльнай рады, як арганізатары гэтага прыняцьця.

Банкет пачаўся па вячэрні, у царкоўнай залі, прыгожа ўдэкараванай. Настаяцель а. прат. Міхась Страпко пабагаславіў стравы і ўспомніў імёны харыстаў, што адыйшлі на вечны супачынак, адсьпявалі ім вечную памяць.

У часе вячэры старшыня парафіяльнае рады Сяргей Карніловіч прывітаў харыстаў, зазначыў важнасьць хору, які ўзбагачае нашыя службы, шчыра падзякаваў харыстам ад парафіі за іхнюю ахвярную працу ды пажадаў усім ім і іхным сем'ям добрага здароўя, удачаў і ахвоты ў далейшай працы.

Айцец прат. М. Страпко, вітаючы харыстаў, падкрэсьліў важнасьць царкоўных напеваў у часе службаў, што прыцягвае больш вернікаў і надае ма- хору, у якім сёньня налічваецца 18 сяброў; зь іх бальшыня жанчыны, таму трэба больш мужчынскіх галасоў. Наведваньне багаслужбаў летась было добрае, царкоўныя ноты на галоўныя сьвяты амаль ужо ўпарадкаваныя, і сёлета плянуецца больш сьпевак. Падзякаваў кіраўнік харыстам за супрацоўніцтва, Олі Макдэрмат (Дубаневіч) за падыграваньне ў часе сьпевак, парафіяльнай радзе за добрае наладжаньне прыняцьця й маральнае падтрымваньне, пажадаў усім добрых удачаў і еднасьці ў будучыні. Прыняцьцё прайшло ў вясёлым настроі.

Падсумоўваючы, трэба зазначыць, што сябры царкоўнага хору выконваюць вялікую працу ня толькі ў царкоўнай галіне, але і ў жыцьці беларускай калёніі Кліўленду наагул. Хоць блізу ўсе яны маюць сталыя працы, аднак бяруць актыўны ўдзел у іншых грамадзкіх арганізацыях, гуртках, усе належаць да сьвецкага жаночнага хору «Васілёк», які бярэ ўдзел у ўсіх імпрэзах. Таму слава і падзяка ім ад ўсёй грамады.

**К. П.**

## 15-Я З ЧАРГІ ВЫСТАЎКА

Пачынаючы ад 1974 году, у культурным жыцьці Беларусаў Саўт-Рывэру ўвайшло ў традыцыю штагоду наладжваць у сакавіку мастацкія выстаўкі, на якіх паказваюць працы нашых мастакоў і ўмельцаў.

Другім атракцыёнам сёлетняй выстаўкі былі раскладзеныя на сталох з вырабамі ўмельцаў «выпалянкі» (малюнкі, выпаленыя на драўляных дошчачках; каля 10 штук), выстаўленыя Надзяй Кудасавай, атрыманыя ёю з бацькаўшчыны.

Зь ведамых нам на эміграцыі маста-



*Задаволеныя добрым прыняцьцём удзельнікі паказу вопраткі*



*Саўтрывэрскі хор пасьля ўдалага выступленьня на сакавіковым сьвяткаваньні*





*Сцэнка са скетчу «Перастройка», пастаўленага ў Беларускаім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры 20 лютага сёлета. Гл. «Беларус» № 345.*

Так і сёлета, у нядзелю 13 сакавіка ў залі Грамадзкага Цэнтру ведамая мастачка Ірэна Рагалевіч-Дутко адчыніла 15-ую з чаргі выстаўку, над арганізацыяй якое шчыра папрацавалі: Ірэна Рагалевіч-Дутко, Мікалай Дутко, Валя Камянкова, Надзя Кудасава, Ліза Літаровіч, Людміла Літаровіч, Лявон Літаровіч, Алег і Людміла Махнюкі.

Сталыя наведвальнікі нашых выставак маглі заўважыць некаторыя адметнасьці сёлетняй ад папярэдніх. Так, прыемным атракцыёнам выстаўкі быў жывы паказ узораў беларускай народнай вопраткі з розных рэгіёнаў Беларусі.

коў свае працы выставілі: Іда Баттэрворт (алей), Ірэна Рагалевіч-Дутко (акрылік). Мікалай Дутко (фатаграфіі). Надзя Кудасава (алей). Людміла К. М. (акварэль). Аліса Махнюк (акварэль). Алег Махнюк (скульптуры з дрэва). Галіна Русак (акрылік). Алекс Сільвановіч (фатаграфіі) і Ст. Тамара (акрылік).

Як відаць з гэтага пераліку, удзельнікаў-мастакоў на выстаўцы было няшмат. Затое ад экспанатаў умельцаў «угіналіся» сталы. Свае работы выставілі 20 асобаў (у праграмцы пералічана 19 асобаў, бо не названы Алег Махнюк, які, акрамя скульп-

*(Працяг на 6-й б.)*

### УШАНАВАНЬНЕ ПАМЯЦІ К. КАЛІНОЎСКАГА

Стараньнямі аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзы 24 красавіка сёлета адбылося ў Гайленд-Парку ў залі парафіі Жыровіцкае Божай Маці ўшанаваньне памяці Кастуся Каліноўскага з нагоды 150-х угодкаў ад нараджэньня.

Адчыняючы ўрачыстасьць, сп. Міхась Тулейка, старшыня аддзелу БАЗА, прывітаў прысутных на залі а. Васіля Андрэюка ды беларускага мастака зь Беласточчыны Лёніка Тарасэвіча, адзначыў выдатную постаць Кастуся Каліноўскага ў гісторыі Беларусі.

Пра К. Каліноўскага й ягоную эпоху панарамна расказала сп-ня Галіна Русак у добра апрацаваным рэфэраце.

Сп. Тулейка з пачуцьцём прачытаў верш Натальлі Арсеньневай «Песьня каліноўцаў» ды цікавы ўрывак з нарысу беларускага пісьменьніка Васіля Хомчанкі пра Каліноўскага.

Управа аддзелу БАЗА наладзіла пачастунак для ўдзельнікаў сьвяткаваньня.

## НАВУКОВАЯ СТУПЕНЬ Р. СТАНКЕВІЧ

У канцы леташняга году сп-чна Раіса Станкевіч закончыла з тытулам магістра (Master of Arts) факультэт русістыкі Гантэрскага Каледжу Гарадзкога Ўнівэрсытэту Нью-Ёрку. Тэма магістарсткай працы: Self-Determination and Revolution in Byelorussia: Determinants of Success and Failure of the Byelorussian National Movement, 1902-1919 (Самавызначэньне й рэвалюцыя ў Беларусі: фактары ўдачы й правалу беларускага нацыянальнага руху ў пэрыядзе 1902-1919 гадоў).

Раіса Станкевіч мае таксама ступень магістра ў дакладных навуках, у галіне біяхэміі, і працуе ў дасьледніцкай лябараторыі славутага Слоан-Катэрынгскага Цэнтру Вывучэньня Рака ў Нью-Ёрку. Ейныя працы друкуюцца ў розных навуковых публікацыях.

Сябры рэдкалегіі «Беларуса» шчыра вітаюць сваю актыўную супрацоўніцу сп-чну Раісу Станкевіч з новай ступеняй ды жадаюць плённай працы ў галіне навуковай беларусаведы.

***РЫХТУЙЦЕСЯ ДА СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ Ў ТАРОНЬЦЕ 3-5.IX.1988 Г. ПРАГРАМА БУДЗЕ АДБЫВАЦЦА Ў БЕЛАРУСКІМ РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІМ ЦЭНТРЫ І Ў ГАСЬЦІНІЦЫ, У ЯКОЙ ВЫ ЗМОЖАЦЕ Й НАЧАВАЦЬ. НЕ ПРАПУСЬЦЕЦЕ РЭДКАЙ НАГОДЫ ПАБАЧЫЦЦА ІЗ ЗНАЁМЫМІ, УЗБАГАЦІЦЦА ДУХОВА.***

## НА ФЭСТЫВАЛІ Ў ПЭНСЫЛЬВАНІІ

Ад 15 да 17 красавіка сёлета адбываўся дзясяты гадавы Славянскі фэстываль Пэнсыльванскага Штатавага Ўнівэрсытэту. Беларусы бяруць удзел у гэтых фэстывалях ад 1981 году. Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне штагоду ладзіць на фэстывалі выстаўку беларускага народнага мастацтва. Двойчы выступаў там танцавальны ансамбль Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі «Васілёк» пад кіраўніцтвам др. Алы Орса-Рамана, выступаў зь вялікай удачай. Апрача Беларусаў, удзел у фэстывалях бяруць Македонцы, Палякі, Расейцы, Славакі, Славэнцы, Сэрбы, Украінцы й Чэхі.

Нястомны арганізатар гэтых імпрэзаў ад самага пачатку — выкладчыца аддзелу славянскіх моваў Пэнсыльванскага Ў-ту праф. Лорэйн Капітонава. Пэнсыльванскі Штатавы Ў-т, заснаваны ў 1855 г., ведамы на ўсю Амэрыку, ён мае каля 48 тысячаў студэнтаў. У штаце жыве каля трох мільёнаў Амэрыканцаў славянскага паходжаньня, і таму Ўнівэрсытэт — добрае месца для праводжаньня сьвятаў культуры славянскіх народаў.

Беларускія выстаўкі на гэтых фэстывалях былі заўсёды прыгожа аформленыя, багатыя экспанатамі. Сёлета, прыкладам, на трох вялікіх сталох, пакрытых дзяружкамі, былі раскладзеныя вышываныя народным вузорам падушкі, тканыя ручнікі, інкруставаныя саломкай шкатулкі, паясы й калекцыя лялек у народнай вопратцы. Сёлета ізноў прыбыў на выстаўку з Канады народны мастак сп. Мікола Шуст з жонкаю Гэленай. Ён на двух сталох выставіў свае вырабы: інкруставаныя саломкай шкатулкі, столікі, рамкі. Тут-жа ён і дэманстраваў сваё ўмельства, прыцягваючы да сябе шмат зацікаўленых наведнікаў. Адным зь іх быў дырэктар аддзелу славянскіх моваў праф. Ўільям Шмальстыг з жонкай.

Разам з экспанатамі на нашым стале ляжалі таксама кніжкі ў ангельскай мове пра беларускае народнае мастацтва, адзеньне, кухню, раздавалася інфармацыйная літаратура пра Беларусь.

Беларускія стэнды прыцягвалі шмат увагі, выклікалі зацікаўленьне й роспыты пра экспанаты ды пра Беларусь наагул. Паказаныя на выстаўцы экспанаты — гэта собскасьць М. Шуста, А. Шукелайця ды Р. і З. Станкевіч.

**Раіса Станкевіч**

## ПЕРАДАЧЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Programa Bieloruso | 白俄語節目 | البرنامج البيالوروسي | Byelorussian Programme

Padre Robert Tamushanski

VATICAN RADIO · Byelorussian Programme · 00120 VATICAN CITY



*On the occasion of the 50th anniversary of Vatican Radio the Holy Father visited Palazzo Pio, the production centre of our Radio. Here he greets Father Robert Tamušanski, our editor-in-chief.*




**HALOÛNYJA RUBRYKI ŠTODZIONNYCH PIERADAČ:**

**Paniadziełak:** Dziejnaść Śviaciejšaha Ajca, Biblejskaja Historyja

**Aûtorak:** Katechiza · Ahulnyja viestki

**Sierada:** Ahulnaja Aūdyjencyja, Vatykanskija viestki Narysy pa Historyi Bielarusi

**Čaćvier i Piatnica:** Aktualnaści abo Karotkija razvažańni

**Subota:** Relihijnyja navučańni pavodle Staroha Stylu

**Niadziela:** Niadzielnaja hutarka pavodle Łacinskaha Abradu.

*Частка балонкі 45-й квартальнага бюлетэню № 1 за сёлетні год Radio Vaticana. Беларуская праграма Ватыканскага радыё перадаецца штадня ўвечары а гадз. 20.45 мясцовага (беларускага) часу на кароткіх хвалях 49, 31 і 25 мэтраў ды паўтараецца ўраньні а гадз. 7.45 на хвалях 41, 31 і 25 мэтраў.*

**З жыцьця ў Аўстраліі**

### ГАНАРОВАЕ СЯБРОЎСТВА СП. М. СКАБЕЮ

Мэльбурн, Аўстралія. — Беларускі Цэнтральны Камітэт (старшыня сп. Ул. Сідлярэвіч), каб ушанаваць шматгадовую грамадзкую працу сп. Міколы Скабея, прызнаў яму ганаровае сяброўства камітэту. Вітаем сп. Скабея ды жадаем добрага здароўя і далейшых удачаў.

### 70-ГОДЗЬДЗЕ СП. Р. ШАЙПАКА

18-га красавіка сёлета сп. Рыгору (Грышы) Шайпаку, які жыве ў Мэльбурне (Аўстралія), споўнілася 70 год жыцьця. Да сп-тва Шайпакоў завіталі сябры, сардэчна віталі юбіляра. Да іхных пажаданьняў далучаецца выдавецтва «Беларус». Сп. Г. Шайпак — адзін з нашых добрых прадстаўнікоў, дзякуючы руплівасьці якіх газэта выходзіць ды служыць крыніцай інфармацыі й сувязі.

## *РОСТ ЦЭНАЎ*

Газэта «Советская Белоруссия», (17.II.88) тлумачыць прычыны «росту цэнаў на шмат якія вырабы першай патрэбы» тым, што ў моц пераводу прадпрыёмстваў на гасразьлік (гаспадаркі разьлік, г. зн. самааплочваньне) прадпрыёмствы пачалі «любой цаной зборьшваць свае прыбыткі», «дыктуючы суровую палітыку цэнаў». І вось вынік, піша газэта:

«Школьнікі бяз удачы ганяюцца за капеечнымі сшыткамі і шарыкавымі алавікамі, нястачы якіх ніколі ня адчувалася. Ім прапануюць дарагія гросбухі і аўтаручкі па два рублі. Сельскаму мэханізатару, які бяз удачы шукае па магазынах цёплага, выгаднага зімовага абутку, прапануюць элеганцкія заморскія боцікі, зразумела, за адпаведную цану. Ня хочаш — ня купляй.

«— А як ня купляць, калі дачушцы трэба пальто, аднак цаною яно — блізу чверць майго заробатку, — дзеліцца сваймі турботамі адна жанчына каля прылаўку сталічнага 'Дзіцячага сьвету'».

«За рубель на рынку можна купіць тры галоўкі часныку, і то ў сэзон», піша газ. «Сов. Бел.» за 16.III.88.

## 15-Я З ЧАРГІ ВЫСТАЎКА

*(Заканчэньне зь 5-й б.)*

туры з дрэва, даў на выстаўку: двое цымбалаў, гуслі, макет беларускай хаты і інш.). Сярод экспанатаў умельцаў было многа ткацкіх вырабаў і вышыўкі. А Людміла Літаровіч, як і кожны год, дэманстравала свае беларускія вялікодныя пісанкі.

Для гасьцей (таксама традыцыя) арганізатары выстаўкі падрыхтавалі сьціплы пачастунак.

**А. Д.**

### «СУСТРЭЧЫ» № 2(7)

У другім леташнім нумары часапісу беларускіх студэнтаў у Польшчы апублікаваныя: Янка Максімюк — Успамін (аб тым, як на пачатку 1980 г. заснаўвалася Беларускае Аб'еднаньне Студэнтаў у Варшаве); Яўген Вапа — Чаму так сталася? (пра навучаньне беларускае мовы й БГКТ); Валянцін Сельвесюк — Аспэкт сучаснай рэчаіснасьці (пра Супрасьль XVII ст. і нігілізм у дачыненьні да Беларусаў Польскай Праваслаўнай Царквы); два вершы Адэлі Марэлі; Urbi et Orbi (пра апалячваньне беларускіх каталікоў у ранейшай і сучаснай Польшчы); выпіскі з друку; хроніка; карыкатура на «беларускага ўдзельнага князя» Хведара Варшаўскага (мастака Лёніка).

### «У АБАРОНУ БЕЛАРУСАЎ»

Пад гэткім загалоўкам газэта «Русская Жизнь» (26.IV.88) зьмясьціла допіс Расьціслава Завістовіча ў адказ на артыкул у тэй-жа газэце (5.III) нейкага Абданк-Касоўскага, паводля якога «нет особого белорусского народа, языка, истории». Сп. Завістовіч годна й кампэтэнтна адказаў дапатопнаму шавіністу, паінфармаваўшы чытачоў газэты пра факт акупацыі Беларусі Расеяй толькі ў канцы 18-га стагодзьдзя, пра дзяржаўную беларускую мову ў Вялікім Княстве Літоўскім, першадрукара ўсходніх Славянаў Ф. Скарыну, ды зазначыў прыгэтым, што ад «дапамогі» «старэйшага брата» Беларусы толькі бедавалі.

### *«БЕЛАРУСКІ ЛІСТОК»*

Выдаватны ў ЗША часапіс «Сеятель Истины», орган Саюзу Расейска-Украінскіх Хрысьціянаў Баптыстаў запачаткаваў сёлета на сваіх старонках «Беларускі Лісток». Пастанова ўвесьці «Беларускі Лісток» была прынятая на зьезьдзе Саюзу, які адбыўся 1-5.VII.1987 г. ў Ашфардзе, штат Канэктыкэт. Рэдагуе «Лісток» сп. Даніла Ясько. У двух сёлетніх нумарох «Сеятеля», які нумаруецца памесячна, але выдаецца раз на два месяцы, зьмешчаныя гэткія беларуская матар'ялы: верш Д. Ясько «Навагодняе», біблійнае тлумачэньне «У часы прарока Ісаіі», рэпартаж Якуба Рэпэцкага пра леташняе наведаньне Беларусі, апавяданьне «Адказ на малітву», верш Ул. Кузьмянкова «Родная мова», верш-песьня «У магіле Хрыста ня шукай» Д. Ясько ды казань «Збавіцель».

Рэдактар Ясько просіць прысылаць у «Лісток» кароткія паведамленьні, артыкулы, апавяданьні, вершы — на адрас:

Rev. Daniel Jasko
10844 E. Rose Drive
Whittier, Calif. 90606

### ПРА БЕЛАРУСЬ У АНГЛАМОЎНЫМ БЮЛЕТЭНІ

У Чыкага дзеіць Саюз Дружбы Цэнтральна-Ўсходняэўрапейскіх Нацыяў, у які ўваходзяць Чэхаславакі, Палякі, Румынцы, Сэбры й Славэнцы. У восьмым нумары англамоўнага бюлетэню гэтай арганізацыі (№ 8, сакавік 1988) зьмешчанае выступленьне сп-ні Веры Рамук, сакратара Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага, на тэму гісторыі Беларусі й змаганьня за незалежнасьць, зьмешчаная таксама прамова сп-ні В. Рамук на гадавым сходзе Саюзу Дружбы ў сакавіку 1987 г., а таксама артыкул старшыні Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі сп. Івана Касяка пра пагрозу радыяцыі ў выніку чарнобыльскай атамнай аварыі.

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА: НАРАДА Ў ЦК КПБ

У ЦК КПБ адбылася нарада працаўнікоў Міністэрства асьветы рэспублікі й пісьменьнікаў, якія вядуць абарону роднае мовы. Былі разгледжаныя шляхі да палепшаньня выкладаньня беларускае мовы й літаратуры ў школах. Як падала «Зьвязда» (24.III.88), «на нарадзе адзначалася, што ў рэспубліцы настойліва пераадольваецца практыка беспадстаўнага вызваленьня дзяцей ад вывучэньня беларускай мовы ў школах з рускай мовай навучаньня». «Пераадольваць» ёсьць што. У Менску, паводля «Зьвязды», у 1969 годзе ў школах з расейскаю моваю навучаньня беларускую мову ня вывучалі 90% дзяцей, а па рэспубліцы лік гэты быў 30%. Цяпер ў расейскамоўных школах беларускую мову ня вывучаюць у Менску 8,5% школьнікаў, а па рэспубліцы — 3,6%.

### МЕНСК БЯЗ ПОМНІКА «АФГАНЦАМ»

Амэрыканская газэта The Plain Dealer, што выходзіць у гор. Клірўлендзе, зьмясціла (24.IV) паведамленьне агенцтва Асошыэйтэд Прэс зь Менску аб тым, што ў сталіцы Беларусі, «горадзе-гэроі», назіраецца, як рэдка дзе ў Савецкімі Саюзе, кантраст паміж сацыяльным статусам тых, што загінулі ў змаганьні з нацыстамі, і тых, хто загінуў у Афганістане. Ахвяры афганскай вайны (якіх людзі завуць ня зусім дадатнай мянушкай «афганцы»), піша газэта, пахаваныя пад ананімнымі помнікамі, на якіх звычайна напісана: «памёр, выконваючы свой інтэрнацыянальны абавязак». Афганская вайна, паводля газэты, «пакінула на шмат кім з тых, хто вярнуўся, сьляды глыбокага разладу: цягу да наркотыкаў, схільнасьць да гвалту, апатыю, хваробы, калецтва, разбураныя сужэнствы».

У Афганістане, кажуць заходнія экспэрты, загінула каля 15-х тысячаў савецкіх жаўнераў.

# ПАЛЯНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ КАТАЛІКОЎ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

Гаворачы пра «касьцельных Палякоў», маю на ўвазе тых, якіх ксяндзы змушалі гаварыць пацеры папольску. Інакш ксёндз не ахрысьціць дзіцяці, ня прыме да споведзі, ня дасьць шлюбу й г.д. Ёсьць і цяпер гэткія, і пераважна ксяндзы, што ня хочуць і гневаюцца, калі хто ня ўмее гаварыць папольску, а гаворыць пабеларуску. Чуў я такое ў Солах, Вішневе каля Сьвіра, у Астраўцы, у Жупранах і блізу ўва ўсіх парафіях на Беларусі. Гэткім парадкам, сваім сьвятарскім аўтарытэтам хочуць спалянізаваць Беларусаўкаталікоў. Былі выпадкі, што маладая ўмела пацеры пабеларуску. Ксёндз сказаў: «Я такіх пацераў не прызнаю. Пакуль не навучышся папольску, шлюбу ня дам!» Іншыя вымагаюць: «Навучы дзяцей чытаць і пісаць папольску». Выдалі і пашыраюць катэхізм — літары рускія, а словы польскія. Аднаго разу дзеці, трымаючы гэткія катэхізмы, кажуць мне: «Мы гэтак не разумеем». Вось каб Паляком такія катэхізмы: польскія літары, а расейскія або нямецкія словы! Такім парадкам: пацеры чужыя, касьцёл чужы, вера чужая, сьвятар чужы, Божая Маці чужая і Госпад Бог чужы, або прынамся — польскі. А палец чый смачнейшы — свой ці чужы, а дзіце — сваё ці чужое? Людзі, якія што-колечы схапілі польскага, ужо вымірають, а што па іх застаецца? Ані пацераў, ані песьні ў касьцеле, ані веданьня асноваў веры хрысьціянскай. Пісаў я Сьвятому Айцу: «Perversi pastores adduxerunt populum meum ad ruinam». (Благія пастыры давядуць народ мой да загібелі — рэд. «Б-са»). У касьцеле старэйшае пакаленьне разумее: сьпяваюць папольску песьні, а паразумецца зь дзецьмі, вытлумачыць ім ня могуць і ня ўмеюць — страшная рэлігійная ігнаранцыя! Скалечаны народ, бы той няшчасны, што апынуўся паміж разбойнікаў. Сьвятар і Левіт абыякавыя, знайшоўся толькі міласэрны Самаранін. Сам Рыжскі кардынал казаў: «Ксяндзы-Палякі са сваёй сьмерцяй хочуць пахаваць каталіцызм на Беларусі: і Польшчы на Беларусі ня зробяць і веручых патрацяць!»

Прыяжджаюць у Менск і з Польшчы, з Варшаўскай акадэміі, вучоныя, літаратары. Дамовіліся выдаць слоўнік польска-беларускі й беларуска-польскі. У шмат якіх галінах навукі й прамысловасьці супрацоўнічаюць. А як заслужыўся перад беларускай культурай Федароўскі ды іншыя. Ксяндзы-ж гэткія шляхотныя, што гэтае «хамскае мовы» — хоць самі нарадзіліся на Беларусі — ужываць ня хочуць. Некаторыя зь іх кажуць, што калі-б я выдаў пабеларуску малітоўнік, яны спалілі-б яго, а ў лепшым выпадку ў рукі не ўзялі-б і не карысталіся-б ім. Добрыя пастыры не пагарджалі-б сваім статкам, ягонай мовай, культурай, людзьмі. Хрысьціянства ўсюды дапамагае народу, падтрымвае культуру таго народу, а ў нас — плюе. Палякі-ж самі сьпявалі і нас вучылі: «Nie będzie Niemiec pluł nam w twarz!" (Ня будзе Немец плёваць нам у твар — рэд. «Б-са»). З шасьцісот тысячаў савецкіх салдатаў, якія загінулі, бaронячы Польшчу ад Немцаў, напэўна А палякі ста тысячаў — гэта Беларусы. А Палякі нас дзвацаць гадоў перасьледавалі: і ў касьцеле, і ў школе, і па ўстановах. У Вільні Літоўцы на дзьве гадзіны адступалі свой касьцёл Беларусам-каталікам. А дзе ўдзячнасьць за беларускія ахвяры, мучаніцтва? «Белыя Палякі» тысячамі выбівалі сьведамых Беларусаў, а наракаюць на Катынь...

Усё зло ідзе згары, ад галавы. Відаць, тут і прычына дзейнасьці ксяндзоў цяпер на Беларусі. Чаму? Таму, што нават у «Пантыфікальным календары» напісана: «Пінск — Польшча». Заходняя Беларусь і далей «Усходнія Крэсы» — трэба спалянізаваць, дарыхтаваць да акупацыі.

Але-ж прадстаўнікі Ватыкану падпісалі Гэльсынскую дэклярацыю! Дзеля гэтага трэба дапусьціць і касьцельную адміністрацыю, і беларускую гіерархію на Беларусі. У часе польскай акупацыі Заходняй Беларусі абвяшчалі: у ніякім выпадку не дапусьціць беларускае мовы ў Касьцеле, бо адзіная апора польскасьці на Крэсах — гэта польска-каталіцкі Касьцёл. Чым-жа будуць палянізаваць Беларусаў, калі ня польскім Касьцёлам і «польскай верай»? А нас Ісус Хрыстос паслаў навучаць справядлівасьці й хрысьціянскай веры. Дружба — гэта дружба й прыязьнь! «Спазнай у чалавеку Хрыста, брата свайго і будзеш каханы».

Пішу ў сьпеху, бо мяне чакае пасланец. Палякі! Памажэце нам стаць на хрысьціянскія ногі, памажэце нам, Беларусам-каталіком, мець свайго біскупа, адміністрацыю, сэмінарыю і г.д., і вы дакажаце, даведзяцё, што вы нам «браты ў Хрысьце».

**Кс. Уладыслаў Чарняўскі**

Пра ліст а. Чарняўскага падала таксама ў сваім бюлетэні лёнданская прэсавая служба Keston News Service (KSN No. 296, 17.III.88).

### «ПІСЬМО ДА СЯБРЫ»

Гэта — выдадзеная летась ў Беластоку ананімная брашура (24 бб. машынапіснага друку, лацінкай), у якой аўтар дае вельмі крытычны (каб не сказаць пэсымістычны) аналіз беларускага жыцьця на Беласточчыне ў паваенным пэрыядзе ды лёгікай сваіх разважаньняў намагаецца вырабіць у свайго беларускага чытача больш адпорную на цяжкасьці, вытрывалую псыхалёгію, паспрыяць умацаваньню нацыянальнае самасьведамасьці.

### АБАРОНА ДЫЯКАНА УЛ. РУСАКА

Славянскае Евангельскае Таварыства ў ЗША і Канадзе (Siavic Gospel Association) выдала паштоўку на падтрыманьне зьняволенага ў СССР дыякана Расейскае Праваслаўнае Царквы Ўладзімера Русака. Беларуса з паходжаньня (гл. «Б-с». № 344). На адным баку паштоўкі — малюнак шляху й словы з псальму 15:11: «Ты пакажаш мне шлях жыцьця». З другога — тэкст парасейску: «Дарагі Ўладзімер Русак. нехай гэтая паштоўка будзе выражэньнем нашай любові й турботы. Мы молімся за Вас у імя Збаўцы нашага Ісуса Хрыста. Няхай ахоўвае Вас Госпад!». Паштоўка заадрасаваная:

Vladimir Rusak<br>618810 Permskaya oblast<br>Chusovskoi raion<br>pos. Kuchino<br>uchr. VS-389/35<br>Soviet Union

Дыякан Ул. Русак, якому 38 гадоў, пачаў адбываць свой сямігадовы тэрмін зьняволеньня (абвінавачаньне: «антысавецкая агітацыя й прапаганда») 22 красавіка 1986 году, гэта значыцца, што ён будзе выпушчаны на свабоду толькі ў красавіку 1993 году.

# РЭХА 1917 ГОДУ: КАЗІМІР ШАФНАГЕЛЬ

**Ад Рэдакцыі «Беларуса»:** Ніжэй зьмяшчаем адкрыты ліст 70-гадовае даўнасьці, як цікавае рэха свайго пэрыяду. Аргумэнты й разважаньні аўтара ня зусім перастарэлі й для нашых часоў. Перадрукоўваем матар'ял даслоўна й поўнасьцяй з газэты «Гоман», што выходзіла ў Вільні (№ 86, 26.X.1917). Заканчэньне будзе зьмешчанае ў наступным нумары «Беларуса».

## ДА НАШАЙ КРАЁВАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

**(Адкрытае пісьмо)**

*Пісьмо гэтае прыслана нам вядомым прадстаўніком вялікшых землеўласьнікаў, п. Казімірам Шафнаглем з Кушлян, Ашмянскага пав., каторы ўсё сваё жыцьцё стаяў на шчыра краёвым становішчы, як сын зямлі Беларускай, а цяпер, калі настаў мамэнт дзеля чыннага выступленьня беларускага народу, прыступіў да беларускай нацыянальнай работы, як Беларус.*

*Пісьмо гэтае мае выйсьці ў асобнай адбітцы так-жа і ў польскім перакладзе.*

**Рэдакцыя**

Прыйшоў мамэнт ядыны, мамэнт асаблівы, мамэнт, каторы мо' ўжо ў гісторыі не паўторыцца больш для нешчасьлівага, пазбаўленага сваей дзяржаўнасьці, пакінутага сваімі натуральнымі кіраўнікамі — сваім духавенствам і сваёй сьвецкай інтэлігенцыяй беларускага народу. Гэты народ беларускі прызваны цяпер сам пастанавіць аб сабе, аб сваёй будучыні, прызваны паказаць, што ён ёсьць і падаць голас, што ён жыве, выказаць свае палітычныя і нацыянальныя жаданьні.

Але які-ж страшэнны трагізм! Гэты народ беларускі, каторы, як і кожын іншы народ, павінен складацца зь некалькіх грамадзянскіх слаёў: народнай масы — сялянства і работнікаў, ды з кляс менш чысьленых, але эканамічна і культурна сільных і нацыянальна сьвядомых, — значыць: зямян, мяшчанства і прадстаўнікоў вольных прафэсій, — гэты народ беларускі складаецца цяпер толькі з чысьленай, але цёмнай, нягraматнай, нацыянальна несьвядомай сялянскай і работніцкай масы, баламучанай па сягоньняшні дзень пануючымі над ёй палітычна, эканамічна і культурна нацыянальнасьцямі. Бо гэты народ беларускі — то сірата, бедны, цёмны беззашчытны, сірата, пакінуты сваімі натуральнымі айцамі і апякунамі — сваёй інтэлігенцыяй. І вось, калі наляцела страшэнная гістарычная навальніца, калі прагавітасьць суседзяў шчэрыць зубы, каб праглынуць і сьцерці даванья з абліча зямлі народ беларускі, калі разам з тым — дзякуючы шчасьліваму ходу здарэньняў — гэтаму народу засьвяціўся, праўда, слабы яшчэ прамень надзеі на нацыянальнае і палітычнае адраджэньне, — у гэткі становічы зваротны мамэнт той народ — сірата стаіць вось беззашчытны, быццам смачная пажыва для кожнага, хто захоча працягнуць па яго руку, каб яго зьнішчыць, дэнацыяналізаваць, праглынуць!

Гдзе-ж запрапала тая натуральная апякунка і кіраўнічка кожнага народу — яго інтэлігенцыя? Якім дзіўным, трагічным здарэньнем асталося ад народу гэтага толькі тулава, — дзе падзелася галава яго?

Ах, бо інтэлігенцыя гэтага народу некалі за сорак сярэбранікаў (шляхоцкія прывілеі — падданства сялян) адраклася яго, здрадзіла свой уласны народ, прысвоіўшы чужую для яго мову, культуру і палітычны ідэал. Беларускі народ і стаўся гэтак сіратой, бо яго інтэлігенцыя, яго вышэйшыя, абясьпечаныя клясы дэнацыяналізаваліся, спольшчыліся, сталіся чужымі тэй масе народнай, з каторай выйшлі, чужымі тэй зямлі, зь якой ад вякоў цягнулі жыцьцёвыя сокі.

Раз пачаўшыйся разьдзел вызываў усё вялікшыя рэзультаты, паглыбляўшыя ўсё болей пропасьць між народам беларускім і яго спалячанай інтэлігенцыяй, бо беларуская маса, пазбаўленая сваіх уласных, нацыянальных, культурных слаёў, асталася на пачатковай ступені разьвіцьця са сваім «простым» — як у пакорнасьці сваёй называе — языком, са сваёй нацыянальнай несьвядомасьцю, каторая выяўляецца, напрыклад у тым, што Беларус ня ведае, хто ён папраўдзе ёсьць, і на пытаньне аб гэтым, калі каталік, кажа: «польскі», а калі праваслаўны — «рускі», ня маючы магчымасьці распазнаць гэтых двух асноўных паняцьцяў — вера і нацыянальнасьць, бо ўтрацію нават жаданьне мець сваю ўласную гасударственасьць і нацыянальную самабытнасьць.

Інтэлігенцыя беларускага народу — яго «абываталі», духавенства, мяшчанства, прысвоіўшы сабе чужую, але багатую польскую культуру зь яе пышнымі здабыткамі, традыцыямі, літаратурай і ідэаламі, каторыя зіхцяць тысячамі колераў, вабячы вочы, душу і сэрца, і ўлажыўшы ў скарбніцу гэтай чужой культуры багатыя ўласныя здабыткі, паклаўшы на жэртвенны алтар польшчыны найвышэйшыя правы свайго нацыянальнага генія (Міцкевіч, Кандратовіч, Касьцюшка, Ажэшкова, Манюшка, Сянькевіч і т.п.), даўшы польскаму народу папраўдзе львіную часьць таго, чым Палякі пышаюцца, як сваім пайвялікшым і найхарашэйшым багацьцем, — гэтая апалячаная беларуская інтэлігенцыя цяпер з пагардай паглядае на народ, з каторага сама выйшла, зусім, як той мужык, каторы дайшоў багацьця, пабудаваў на месцы бацькавай хацінкі палац, апрануўся ў багатыя шаты, набраўся «панскіх» манер — і сароміцца свайго сялянскага роду, з пагардай глядзіць на тых бедных братоў сваіх, каторыя ў мужыцкай хаце асталіся, ды йшчэ горш і страшней: ужо іх за братоў ня лічыць, выракаецца іх і супольнага зь імі паходжаньня...

А ты, пане, каторы ад дзядоў-прадзедаў жывеш тут, у Беларусі, маеш беларускае імя, або хоць і польскае, ці спольшчанае, дык усёроўна чысьленымі вузламі крыві ад вякоў зьвязаны з тутэйшым народам і з гэтай зямліцы роднай, з гэтага краю — такога блізкага, зь яго палёў, пожней і лясоў і паветра свае сокі жыцьцёвыя цягнеш, — ты, пане, каторы ад дзядоў-прадзедаў жывеш у найбліжэйшым суседзтве з гэтым народам і з працы яго здабываеш сваё багацьце, — ты, да каторага люд гэты гэтак шчыра, гэтак міла, па-сыноўску пешчатліва прамаўляе: панок, паночак, быццам мімаволі шукаючы ў «пану» апякуна, айца, — ты, пане, на пытаньне, хто ты такі? — адказваеш: «Я? Я — Паляк!» Так, горда, пышна, сьвядома, Паляк! Крый Божа не Беларус: «фэ, гэта выходзіць так па-хамску, так кампрамітуе, так нязгодліва з маімі традыцыямі, ідэаламі і мінуўшчынай!»

Вось у чым трагізм палажэньня: беларускі народ, праўда, мае сваю інтэ-

*(Працяг на 8-й б.)*

### ПОЛЬСКІ РЭВАНШЫЗМ НА ЎСХОД

Газэта Nowy Dziennik, што выходзіць у ЗША, падала ў нумары за 5-6 сакавіка сёлета пра выдадзеную ў Польшчы падпольна сэрыю марак, прысьвечаных розным гарадом заходняй Беларусі і Ўкраіны («Усходнія Крэсы»). На кожнай з васьмёх марак, з дэнамінацыяй 50 злотаў, нарысованыя гістарычныя будынкі: Вільні, Пінску, Нясьвіжа, Горадні, Львова, Станіслававa (сучасны назоў: Івана-Франкіўск), Крамянца й Падгорцаў. Рэпрадукцыя марак у газэце «Новы Дзеньнік» зьмешчаная пад радком з польскага гімну: «Што нам забрала чужая сіла...», за якім, калі песьня пяецца далей, ідуць словы: «шабляю адбярэм». Хоць век шабляў даўно мінуў ужо...

*«ВУЛІЦА ЛЕАПОЛЬДА Ў БЕЛАРУСІ»*

Пад гэткім загалоўкам бэльгійская газэта La Meuse (26.XII.87), што выходзіць у гор. Льежы, падала пра «сымпатычны эпілёг» спробы камэрсантаў вул. Леапольда ў Льежы прыцягнуць ўвагу да свае вуліцы. У верасьні летась яны запусьцілі 1400 балёнаў з прычэпленымі да іх паштоўкамі, на якіх была просьба да людзей, да якіх балёны даляцяць, каб яны вярнулі паштоўкі. Вярнулася з розных краёў 200 паштовак. Найдалейшым горадам, адкуль паштоўка была высланая, сталася беларуская Горадня. Газэта нават зьмясьціла фатаграфію паштоўкі-чэмпіёна, на якой напісана (пафранцуску): «Гродна, вул. Багдановіча ... (?), СССР, Беларусь».

### ЗЯМЕЛЬНАЯ АРЭНДА Ў СССР

На IV Усесаюзнам зьезьдзе калгасьнікаў у сакавіку сёлета ген. сакр. М. Гарбачоў, гаворачы пра «новы этап разьвіцьця аграрных адносін» у СССР, сказаў: «Цяпер калгасы могуць перадаваць у арэнду як іншым прадпрыемствам, так і асобным грамадзянам частку замацаванай за імі зямлі і сваіх асноўных фондаў». («Зьвязда» (24.III.88)

Пастанаваю здаваць калгасную зямлю ў арэнду кампартыя СССР зрабіла паварот у бок формы карыстаньня зямлёю, што дасюль характарызавалася савецкай ідэялёгіяй як уласьцівая толькі эксплаататарскаму ладу. Гэтак, у Беларускай Савецкай Энцыклапэдыі (т. I, 1969), у арт. «Арэнда зямлі», чытаем: «Перамога сацыялізму ў СССР дала магчысмасьць ЦВК і СНК СССР 4.VI. 1937 прыняць пастанову пра поўную забарону здачы зямлі ў арэнду. Здача ў арэнду зямлі... забаронена ў многіх краінах, якія сталі на шлях сацыялістычнага разьвіцьця».

Ня здолеўшны забясьпечыць жыхарства харчамі ў выніку свае калгасасаўгаснай сыстэмы, кампартыя СССР зрабіла цяпер паварот у бок капіталізму...

### У СПРАВЕ ІКАНАСТАСАЎ

Дзякуем тым, хто прыслаў здымкі іканастасаў беларускіх цэркваў на эміграцыі. Але ўсіх здымкаў, нажаль, мы яшчэ ня маем. Мы хочам сабраць здымкі ня толькі дзейных сьвятыняў, але й тых, якіх ужо няма: беларускіх цэркваў і капліцаў у Рэгензбургу, Міхэльсдорфе, Віньдзішбэргердорфе, Ватэнштэце, Бакнангу, Гановэры, Остэргофэне, Гэрэнбэргу, Эльвангэне ды яшчэ, можа, дзе-небудзь. Калі ў каго ёсьць здымкі гэных капліцаў, пажадана іканастасаў, вельмі просім прысьлаць нам, за што загадзе шчыра дзякуем.

**Рэдакцыя «Беларуса»**

## КАЗІМІР ШАФНАГЕЛЬ

*(Заканчэньне зь 7-й б.)*

лігенцыю, ды яна — польская!

Два асобныя сьветы, дзьве мовы, дзьве традыцыі, два сьветапагляды, — дзьве арыентацыі!

А трагізм палажэньня ўзьвялічваецца яшчэ тым, што і мясцовае духавенства, радзіўшаеся ў гэтым краю, часта выйшаўшае беспасрэдна зь беларускай масы або са спольшчанай шляхты беларускай, часта з чыста беларускім іменем, чураецца гэтага народу. На пытаньне: хто ты? — ксёндз адказвае: Я чую сябе Палякам...

І вось бедны селянін беларускі ані ў сваім «панку», ані ў ксяндзу ня бачыць ужо брата. Пан і ксёндз прамаўляюць да яго не яго роднай «простай» мовай, а языком «панскім», культурным, языком польскім. Пан і ксёндз лічаць, што іх найсьвяцейшая нацыянальная павіннасьць — апалячыць Беларуса-мужыка, праз касьцёл, праз школу, калі-б удалося дык праз суд, праз урадавыя ўстановы, а ў канцы, як найвышэйшы ідэал, празь дзяржаўнасьць... польскую!

Чым-жа вы, апалячаныя Беларусы, лепшыя за пагарджаных вамі гакатыстаў і абрусіцеляў? Адумайцеся! Чы ня ў сто разоў горшыя вы за іх, чы не заслугоўваеце на імя адступнікаў свайго народу?! Бо калі гакатысты і абрусіцелі прыходзяць, маючы ўласьць, з чужой зямлі дзеля дэнацыяналізацыі таго або іншага народу, дык яны за гэта прыносяць яму доступ да вялізарных карысьцей, каторыя дэнацыяналізаваным дае прыналежнасьць да палітычна ці культурна магутных дзяржаўных арганізамаў. А вы, апалячаныя Беларусы, вы — адступнікі ў родным краю, у краю, дзе вы ўзгадаваны, дзе жывяцё, — адступнікі, бо хочаце пазбавіць народ свой яго нацыянальнасьці, хочаце навязаць яму чужую гасударственасьць — замест памагчы яму стварыць сваю ўласную, накінуць яму чужую мову, каторая сталася для вас радзімай...

*(Далей будзе)*

(«Гоман» № 86. Вільня. 26.X.1917 г.)

### АБВЕСТКА

У выдавецтве «Беларус» можна набыць ніжэй названыя кнігі Масея Сяднёва па 10 дал. за кнігу (плюс кошт перасылкі). Сп. Сяднёў ахвяроўвае 50% прыбытку ад продажу кнігаў на выдаваньне «Беларуса».

ПАТУШАНЫЯ ЗОРЫ. Паэзія. Вершы й паэмы. 280 б. 1975.

АЧЫШЧЭНЬНЕ АГНЁМ. Вершы. 218 б. 1985.

РАМАН КОРЗЮК. Раман. 314 б. 1985.

І ТОЙ ДЗЕНЬ НАДЫЙШОЎ. Раман. 245 б. 1987.

Чэкі за кнігі трэба выпісваць на газэту «Беларус» (Bielarus).

### ПЕСЬНІ ДАНЧЫКА

Данчыкаву апошнюю кружэлку можна набыць за 15 дал. (плюс кошт перасылкі 2,50 дал. у ЗША), пішучы на адрас:

Mrs. J. Andrusyshyn
430 East 6 St., Apt 3C
New York, N.Y. 10009

***«БЕЛАРУС» ВЫХОДЗІЦЬ ТОЛЬКІ ДЗЯКУЮЧЫ ГРАШОВАЙ АХВЯРНАСЬЦІ ЧЫТАЧОЎ.***

## БЕЛАРУСКАЕ ДУХАВЕНСТВА Ў 1917 ГОДЗЕ

**Каталіцкае й праваслаўнае**

Адкрыты ліст барона Казіміра Шафнагеля да спольшчанае інтэлігенцыі Беларусі, зьмешчаны ў гэтым нумары, трэба ацэньваць у шырэйшым кантэксьце палажэньня на Беларусі гадамі Першае сусьветнае вайны й рэвалюцыі. Лепшаму разуменьню таго, што піша Шафнагель, дапаможа ніжэй паданая выпіска з брашуры А. І. пад заг. «Усходняя Беларусь. Статыстычныя і гістарычныя матар'ялы», выданьне Народнага Сакратарства Міжнародных Справаў (Менск, 1918, друкарня Я. А. Грынблята). А. І. пісаў:

«...Расейскі ўрад выгнаў зь Віленшчыны і Гродзеншчыны цэлыя масы народу, а ў тым ліку бязмала ўсю беларускую інтэлігенцыю. Былі вывезены ўсе, хто быў на казённай службе, а ў тым ліку ўсе народныя вучыцялі, вучыцялі сярэдніх школаў, праваслаўныя сьвяшчэньнікі і т.д., само сабой разумецца, што ўсе яны стараліся задзержацца як найбліжэй да родных кутоў.

«Гэтак сталася тое, што ў мамэнт выбуху Расейскай Рэвалюцыі ў усходняй Беларусі аказаліся сканцэнтраванымі блізка ўсе беларускія сілы, апрача параськіданых па розных местах б. Расейскай Імпэрыі. Але і тыя, каго доля закінула ў чужыну, не пакідалі працаваць дзеля сваёй Бацькаўшчыны і свайго народу: беларуская нацыянальная работа пачала шпарка разьвівацца ў Пецярбурзе, Маскве, Казані і т.д. Пры гэтым нацыянальная сьвядомасьць захапіла ўсе станы і ўсе кругі беларускага грамадзянства: ужо ў самым пачатку рэвалюцыі мы бачым за нацыянальнай работай многа чынных інтэлігенцкіх сіл. Перш за ўсё мы адзначым учасьце ў беларускім руху духавенства, — гэтай бясспорна вельмі важнай сілы ў Беларусі.

«Між каталіцкімі ксяндзамі рух гэты падгатаўляўся здаўна ў Пецярбургскай Духоўнай Сэмінарыі і духоўнай Акадэміі (для Магілеўскай дыяцэзіі), і ў рэзультаце ў мамэнт упадку царызму мы бачым адкрытае арганізованае выступленьне беларускіх ксяндзоў: на зьезьдзе ў Менску заснаваўся Саюз Ксяндзоў-Беларусаў, налічваючы каля 200 членаў, між каторымі трэба адзначыць імёны найбольш актыўных, як: кс. Астрамовіч, м.т. кс. Гадлеўскі (у Менску) кс. Сак, кс. Байко, м.т. Лісоўскі, кс. Лапошка (у Магілеве), м.т. Шырокі (у Парафіяне), кс. Шалкевіч, др. філязофіі Бобіч (у Друі), кс. Будзька, др. Абрантовіч, м.т. Цікотка, м.т. Хвецько, кс. Жалнеровіч, кс. Версоцкі, кс. Аляшкевіч, кс. Борык і інш.

«Закраталася і праваслаўнае духавенства, цэнтрам каторага аказалася Масква: тут папалі блізка ўсе вывезеныя з Гродзеншчыны і Віленшчыны сьвяшчэньнікі. На адбыўшымся тамака ўлетку 1917 году зьезьдзе было каля 800 праваслаўных сьвяшчэньнікаў-Беларусаў, вынесшых рэзалюцыі ў беларускім нацыянальным духу. Між праваслаўным духавенствам выдзяляюцца імёны пратаерэя Кульчыцкага (у Менску), сьв. Усакоўскага, прат. Карчынскага, сьв. Рэпніна і інш.».

### *КОЛЬКІ БЫЛО ВЫГНАНЦАЎ У 1917 ГОДЗЕ*

Беларускі савецкі гісторык Мікалай Сташкевіч у сваёй кніжы «На пути к истине (Из истории национально-освободительного движения в Белоруссии. 1917 год)» (Менск, Бібліятэчка газэты «Голас Радзімы», 1983) піша:

«Першая сусьветная вайна прынесла народу Беларусі вялізарнае няшчасьце. Паводля афіцыйных дадзеных на 1 лютага 1917 году, было зарэгістравана 1 130 042 выгнанцы зь пяцёх заходніх губэрняў, у тым ліку зь Віленскай губэрні — 164 351, Віцебскай — 51 594, Гродзенскай — 750 680, Менскай — 161 453, Магілеўскай — 1 964».

### *З «дасягненьняў» савецкай улады*

«Карты на беларускай мове даўно не выдаюцца, нават для школьнікаў». («ЛіМ», 25.IX.87).

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША**

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Памяці Др. Пётра Гайдэля | ам.д. 500 |
| Бел. грамада ў Кліўленьдзе | 500 |
| БАЗА Нью-Ёрк | 200 |
| А. Беленіс | 100 |
| М. Грэбень | 70 |
| М. Кіпель | 50 |
| М. і В. Махнач | 50 |
| М. Заморскі | 50 |
| В. Рамук | 25 |
| В. Богдан | 25 |
| Г. П. | 20 |
| Н. Кудасава | 20 |
| а. А. Яноўскі | 20 |
| Н. і А. Жызьнеўскі | 20 |
| Л. Шурак | 20 |
| Усяго | 1670 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| М. Целушэцкі | ам.д. 200 |
| К. Шаршуновіч | 40 |
| А. С. | 30 |
| У. Машанскі | 30 |
| У. Курыла | 25 |
| Я. Сапежынскі | 25 |
| а. В. Андрэюк | 25 |
| А. М. Л. Стагановіч | 20 |
| М. Сенька | 20 |
| А. Сільвановіч | 20 |
| У. Сьлюка | 20 |
| В. Дубяга | 20 |
| А. Дубяга | 20 |
| Р. Войтэнка | 20 |
| Я. Місюль | 15 |
| В. Кабушка | 15 |
| Л. Высоцкі | 15 |
| С. Наумчык | 15 |
| В. Цярпіцкі | 15 |
| У. Харавец | 15 |
| С. Рагалевіч | 10 |
| Усяго | 615 |

Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам і прадстаўніком шчыры дзякуй!

**Выдавецтва «Беларус»**

УВАГА!!! УВАГА!!!

*ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ У НЬЮ-ДЖЭРЗЫ*

Асобы, якія атрымваюць газэту «Беларус» ад сп. Б. Даніловіча, павінны перасылаць яму-ж і належнасьць за газэту. Чэк трэба выпісваць на ягонае прозьвішча ды перасылаць на адрас:

B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, NJ 09901

**Адміністрацыя**